

Зоська ВЕРАС → 8-9

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714




20-21.07.2018 - Барык каля Гарадка

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 28 (3244) Год LXIII | Беласток, 15 ліпеня 2018 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

У Гайнаўцы ў белліцэі і белгімназіі ў канцы школьнага года спаткаліся вучні, настаўнікі і асобы з-па-за школы, якія мелі дачыненне да праекта «Комплекс школ з дадатковым навучаннем беларускай мове ў Гайнаўцы — Акадэміяй развіцця ключавых кампетэнцый». Больш за 600 тысяч злотых еўрасаюзных сродкаў у рамках праекта было выдаткаваных, між іншых, на засваенне новых ведаў, павышэнне ўмеласцей вучняў і арганізацыю для іх экскурсій у вышэйшыя навучальныя ўстановы Варшавы і Беластока. Вонкавыя сродкі з праекта былі выдаткаваны таксама на пакупку сучаснага адукацыйнага абсталявання для школьных кабінетаў. У актавай зале Гайнаўскага белліцэя адбылося падвядзенне вынікаў праекта, падчас якога была магчымасць пазнаёміцца з нядаўна купленымі дапаможнікамі і абсталяваннем кабінетаў біялогіі, фізікі і хіміі.

Сабраных у актавай зале прывітала віцэ-дырэктар Гайнаўскага белліцэя Ніна Лукасік, якая коратка падвяла вынікі праекта, рэалізаванага на працягу двух гадоў у Комплексе школ з дадатковым навучаннем беларускай мове ў Гайнаўцы. Віцэ-дырэктар Ніна Лукасік падзякавала Кансультацыйна-адукацыйнай суполцы «Навігатар» з Беластока і яе прадстаўнікам Адаму Хоцею і Агнешцы Федарук-Малец, якія кіравалі рэалізацыяй згаданага праекта.

— Праект «Комплекс школ з дадатковым навучаннем беларускай мове



Настаўніца біялогіі Аліна Пліс

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

# Белліцэй і белгімназія — Акадэміяй развіцця ключавых кампетэнцый





Віцэ-дырэктар Ніна Лукасік (стаіць справа) падзякавала Адаму Хоцею і Агнешцы Федарук-Малец з суполкі «Навігатар» за дапамогу ў рэалізацыі праекта

ў Гайнаўцы — Акадэміяй развіцця ключавых кампетэнцый» рэалізавалі мы два гады. Аднак усё пачалося з візіту прадстаўнікоў суполкі «Навігатар», якія запрапанавалі нам удзел у праекце. Мы моцна ўдзячны Адаму Хоцею і Агнешцы Федарук-Малец, якія дапамагалі нам рэалізаваць праект, а раней хадайнічалі за атрыманне еўрасаюзных сродкаў на аснашчэнне нашай школы ў сучаснае адукацыйнае абсталяванне і дапаможнікі. Усё гэта мы атрымалі ў рамках праекта, на які было выдаткаваных больш за 600 тысяч злотых еўрасаюзных сродкаў. Нападзілі мы многа пазаўрочных заняткаў, праводзілі майстар-класы для нашых вучняў і настаўнікаў. У праекце прынялі ўдзел ажно 252 вучні і 30 настаўнікаў, — паінфармавала віцэ-дырэктар Ніна Лукасік. — Нашы вучні знаёміліся ў час заняткаў з рознымі прафесіямі, са сваімі слабымі і моцнымі бакамі, а таксама вучыліся прадпрымальнасці. Былі ў нас заняткі па біялогіі, фізіцы, хіміі, матэматыцы і па англійскай ды нямецкай мовах, якія давалі магчымасць павысіць веды і ўмеласці вучняў па гэтых прадметах. Важна, што заняткі адбываліся ў невялічкіх групах і, можна сказаць, што некаторыя былі амаль індывідуальнымі. Выязджалі мы на экскурсіі ў Варшаву і Беласток. Нашы вучні пабывалі там, між іншым, у Варшаўскім політэхнічным інстытуце, Беластоцкім політэхнічным інстытуце, Універсітэце ў Беластоку, дзе прымалі ўдзел у занятках, якія вялі навуковыя супрацоўнікі. Пабывалі мы ў Нацыянальным музеі і Цэнтры адукацыі «Капернік» у Варшаве. Былі таксама ў Карыцінах, дзе спецыялісты Цэнтра прыроднай адукацыі знаёмілі нашых вучняў з багатай калекцыяй раслінnасці Падляшскага батанічнага сада. Вельмі важнымі для нас з'яўляюцца абсталяванне і дапаможнікі, якімі ўжо карыстаемся на занятках біялогіі, фізікі, хіміі, а цяпер атрымліваем кніжкі і дапаможнікі па матэматыцы.

— Мы вельмі рады, што ў рамках праекта атрымалі вартасныя дапаможнікі і абсталяванне кабінетаў, што дазваляе вучыцца больш эфектыўна. Нашы вучні многаму навучыліся падчас пазаўрочных заняткаў, вучыліся творчаму думанню. Праект быў цікавай і вартаснай дарогай

працяг ☞ 10



# Ваенны парад і мірная Алексіевіч

Ваенны парад складаецца з трох галоўных груп удзельнікаў. Першая гэта тыя, хто на ўсё, што адбываецца, уважліва пазірае з высокай трыбуны зверху ўніз. Другая група непасрэдна маршыруе па пляцы або едзе па ім на свежа пафарбаванай тэхніцы. Ну і апошняя, гэта тыя, хто назірае за першымі дзвюма з больш нізкіх паверхняў якія не мусяць узвышацца над лініяй далягляду. Для трэцяй групы непасрэдны ўдзел пажаданы, але не абавязковы для ўсіх. Бо на гэты выпадак для іх прыдуманы тэлевізар, які хочаш не хочаш а пакажа ў лепшым святле ўсё, што адбываецца, а асабліва гэных персанажаў, такіх прыгожых і засяроджаных, якія ўзвышаюцца над той лініяй далягляду.

Другая катэгорыя ўдзельнікаў цяжка працуе над тым, каб усё было дакладна і дасканала. Гэта выступ без права на памылку. Не ў тэатры ж. Тут публіка, тая што на трыбунах, можа не зразумець памылку і палічыць яе правакацыяй. Трэцяя ж катэгорыя, што назірае за ўсім як заўсёды з зямной паверхні або праз тэлевізар, аплачвае тытанічныя намаганні другіх, і часамі нават і не падазрае пра гэта. А вось першая катэгорыя, тая, што на высокіх трыбунах, займае цэнтральнае месца ў гэтай падзеі. Бо як не круці, тут усё для яе. І парад, і гледачы, і тэлевізар. І па вялікім рахунку напэўна так ім усім і трэба. І першым, і другім, і трэцім.

У Беларусі 3 ліпеня прайшоў такі ваенны парад. І прысвечаны ён быў афіцыйнаму Дню Незалежнасці. Слова „афіцыйнаму" ключавое ў тым сказе, бо ясна, што ўрачыстасці адбываліся не ў гонар 100-годдзя Беларускай Народнай Рэспублікі, і не ў гонар прыняцця Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі, якая да незалежнасці мае непасрэднае дачыненне. Афіцыйная дата прымеркаваная да вызвалення Мінска ў 1944 годзе ад нямецкіх войскаў савецкімі. Напэўна таму і маршыравалі па беларускай сталіцы сярод іншых і расійскія дэсантнікі як спадкаемцы савецкага войска. А можа і не толькі з тае прычыны маршыравалі. Можа захацелася ім так, вось і пайшлі ваенным маршам. А хто ім забароніць? І кітайскія ваякі пайшлі. Маўляў, а чым яны горшыя? Чаму б і ім не прайсціся па Еўропе са зброяй у руках?!

А ў гэты час у незалежных СМІ з'явілася інфармацыя, што на Гарадзеншчыне, якая 3 ліпеня 1944 года па ранейшаму была пад нямецкай акупацыяй, і дзе па сённяшні дзень яшчэ аніяк не абгрунтавалі логіку святкавання незалежнасці ў гэту дату, узялі ды адмовіліся...не, не, не... не ад вайсковага параду, а ад кніжак пакуль што адзінай беларускай нобелеўскай лаўрэаткі Святланы Алексіевіч. Прычым кніжкі перакладзеныя на беларускую мову, што як бы сімвалізуецца са святам Незалежнасці. Але і гэта не дапамагло. Адмовіліся і ўсё тут. Як кажуць, без аб'яўлення вайны.

Ну ясна, што Святлана Алексіевіч гэта не расійскія дэсантнікі, якім адмовіць маршыраваць па беларускай сталіцы ў юбілейны год БНР і ў афіцыйны Дзень Незалежнасці па ўсё той жа афіцыйнай версіі ніхто не захацеў. Наш пакуль што адзіны нобелеўскі лаўрэат чалавек мірны, і ў логіку ваенных парадаў слаба ўпісваецца. Алексіевіч настолькі любіць тых дэсантнікаў, і расійскіх, і беларускіх, і іншых, што хоча, каб яны больш ніколі не гінулі самі, і не забівалі іншых таксама. Таму і напісала для ўсіх іх, і ўсіх нас, што „у вайны не жаночае аблічча". Толькі відаць не ўсе хочуць, каб гэтая мудрасць стала ўсеагульным беларускім здабыткам. Вунь жа маршыравалі на ваенным парадзе гэтым годам і жанчыны ў вайсковых мундзірах. Ды яшчэ як маршыравалі. Не горш за тых іншаземных дэсантнікаў.

Дык вось, ніхто з таго параду, да якой бы групы ўдзельнікаў яны не адносіліся, так і не змогуць прачытаць развагі нашай першай нобелеўскай лаўрэаткі ў бібліятэцы, калі яны жывуць на Гарадзеншчыне. Гарадзеншчына адмовілася ад кніг. Ну хоць бы сказалі чым яны не згодныя з філасофіяй Алексіевіч! Нічога не сказалі. Відаць не чыталі яе. Ну а як ім пачытаць гэтыя кнігі, калі яны ад іх адмовіліся?! Цяпер, нават калі захочуць, не пачытаюць.

І замежным дэсантнікам не змогуць даць пачытаць. А шкада. Можа шмат бяды змаглі б прадухіліць. Ну а што крыху лепш зразумелі б сябе, ды не толькі сябе, дык гэта дакладна.

Віктар САЗОНАЎ

# Падкоп



Па невядомых прычынах, паваліласяя мая летняя кухня. Так сабе стаяла, раптам рухнула. Нейкі час таму. Такая салідная! Мураваная, на тоўстым падмурку. Нарэшце друз, цэглу і разбітыя дахоўкі сапхнулі мы са сваімі беларускімі сябрамі з Гайнаўкі ў вялікую яму. На пакінутым падмурку, які з вясны дэкаратыўна аброс хмелем і вінаградняй лазой, я паставіў кветкі ў чыгунчыках, белыя і чырвоныя герані. Засталася яшчэ бетонная лесвіца, якая вядзе ў нікуды ... хоць цяпер, калі ўпалі сцены кухні, цалкам адкрылася прастора неба. У агародзе цяпер больш сонечнага святла і месячнага сяйва ды зорак у пагодлівыя ночы. Я на прыступках стаўлю тэлескоп і ўзіраюся на іх. Часам аж да світання. Але няма таго злога, каб не выйшла на добрае. У мяне няма ўжо летняй кухні, якая мне не падабалася за сваю неадэкватную цаглянасць на фоне драўлянай архітэктуры маёй вёскі, але я атрымаў затое такую платформу... Не грамадзянскую — астранамічную! Зоркі вабяць мяне сваім роўным святлом больш, чым асляпляючая ўспышкамі рэпарцёрскіх фотаапаратаў палітыка. Сёння яе зорка — той або іншы. Не існуе больш на палітычным небасхіле Туск, ёсць Схетына. Няма ідэалагічна найруплівага Юрэка, ёсць апантаны Жалек. Каперніканская тэорыя выпіхвання лепшых грошай горшымі найбольш пацвярджаецца ў палітыцы. Качынскі яшчэ ёсць, але з часам і яго паменее. Ці, магчыма, больш дакладна: меншае ён больш, чым ярчэй гарыць. Гэта падобна на тэрмінальную стадыю памірання зорак. Спачатку яны становяцца разадзьмутымі, б'юць па вачах агаальным святлом, або гаснуць да белага карліка, разбураюцца ў сабе, або ў агромным выбуху звышновай зоркі рассыпаюцца ў космасе дзындрай ад згарэлага метэарыта. З яе будуць фармавацца іншыя планеты, і іншыя сонцы другога — так сказаць — сорту. Дык хто пасля Качынскага?.. Ці Брудзінскі, званы «Яё», або, магчыма, Мацярэвіч анімаваны айцом Рыдзыкам? Ці, можа быць, і сам Рыдзык! Паколькі цыкл смерці і нараджэння зорак з'яўляецца непазбежным. Нядаўна з'явіўся на падляшскім гарызонце Каранкевіч, з духу і дэкларацыі левы, па тэмпераменце грамадскі дзеяч. Градыент яго зорачнай яркасці яшчэ непалічаны, хоць энергетычны патэнцыял і шчыры запал вялікія. Рух у палітыцы ўзмацняецца з набліжэннем выбараў у мясцовыя самаўрады. Але зорка цяперашняга прэзідэнта горада Беластока ад чатырох тэрмінаў Трускаляскага, хоць ужо трохі падгарэлая, свеціць яшчэ жвава. Жалек, па-мойму, зоркавы карлік без уласцівасцей, у першую чаргу сапраўдных падляшскіх уласцівасцей, але і так спрабуе каго трэба і не трэба асляпіць. Ці хочам мець такога прэзідэнта? Дакладна: цёмна-стоцкага рэзідэнта ўльтракаталіцкага касцёла? Я гляджу на яго праз таніраваныя акуляры. Вачэй шкода.

Вяртаючыся да маёй зруйнаванай кухні, калі ласка, звярніце ўвагу на яе выпадкова спалучаныя будаўнічай катастрофай словы-сімвалы: неба, лесвіца, світанак. І яшчэ адно слова, якое нейкім чынам вызваліла сімвалічны змест папярэдніх: руіна. Аднак трэба пачаць ад прычыны, якая выклікала ўпадак кухні. Я доўга не мог знайсці яе. Можа падводны цёк падмыў яе падмурак? Але застаўся ён някранутым. Структурныя дэфекты сцен, зацякі дах? На працягу апошніх некалькіх тыдняў я турбаваўся гэтай праблемай. Нарэшце, вырашыў яе сам прэм'ер-міністр Маравецкі. Вось у мінулую нядзелю быў ён на імшы, завяршаючай паломніцтва радыёмарыйных сем'яў на Ясную Гару. Яго суправаджалі іншыя палітыкі ПіС. Міністр Блашчак зачытаў ліст ад Яраслава Качынскага, у якім старшыня ПіС абвясціў, што апорай польскай ідэнтычнасці і патрыятызму з'яўляюцца якраз Рыдзык і Радыё Марыя. Пасля ўзяў голас прадстаўнік прэзідэнта Дуды. Прэзідэнт заўсёды мае шмат сказаць. Тады зноў прамовіў прэм'ер Маравецкі: «Нашы ідэалагічныя праціўнікі і іншыя, — гудзеў згары, — спрабуюць вырыць падкоп, падкоп пад Польшчу, пад польскасць... пад нашы традыцыйныя каштоўнасці. Сям'ю, патрыятызм, мары аб вялікай магутнай Польшчы... ». У мяне, як быццам ударыла маланка! Гэта ж не што іншае, як той падкоп мусіў прабягаць пад маёй цаглянай кухняй, аб чым я нічагуткі не ведаў. І ён праваліўся пад яе цяжарам! Ну і добра. І паколькі кухня была мая (і мая страта), то і гэта заслуга павінна быць толькі маёй. Кратова работа ворагаў Польшчы не пайшла ў марноту. Я адчуў сябе героем. Польскім героем. З нецярпеннем чакаю медалёў!

Міраслаў ГРЫКА



## Сваімі вачыма

# Поўня месяца, сонца, жыцця

Апошні тыдзень чэрвеня правёў я ў сваім бацькоўскім доме. Як пісаў я ўжо неаднойчы, цішыня зараз там такая, што доўгімі хвілінамі апрача ветру і шуму дрэў не пачуеш жывога зявярынага ці чалавечага гуку. А калі ўявіць сабе напрыклад сонечную спёку, якая льецца ў абсалютным спакоі замерлай раслінасці ці суцішаных птушак, то адчуванне біцця ўласнага сэрца даказвае, што ты ў рэальным жыцці, а не ў нейкім апакаліптычным сне. У рэальнасці можна цэлы дзень прасядзець на лавачцы перад домам і не пабачыць ані адной жывой душы, якая ішла б па вуліцы. Гаворачы пра жывую душу, маю на ўвазе не толькі чалавека, але вяскавага ката ці сабаку. Бо з'яўляюцца ўжо здзічэлыя каты і сабачыя статкі, што вандруюць па пустуючых мясцовасцях у пошуках корму. Сустрэць такую чараду паўгалодных і раз'юшаных сабак не жадаю нікому. Таму з першай цемрай лепей сядзець у хаце і не выходзіць на панадворак. Ноччу патрапяць яны так невыносна выць, што не толькі не даюць заснуць, але і дрыжыкі страху раз-пораз прабягаюць па спіне. У дзень па вуліцы праедзе некалькі машын і патрулёў памежнікаў на матацыклах ці адмысловых джыпах. Не відаць яшчэ турыстаў на роварах. Відаць, яшчэ не сезон на паездкі ў глухамань узбярэжжа Белавежскай пушчы.

Менавіта блізкасць пушчы з'яўляецца прычынай своеасаблівай метэаралагічнай з'явы ў прыпушчанскіх вёсках, якой з'яўляецца меншая колькасць дажджу ў параўнанні з суседнімі мясцовасцямі. Сам быў я ў вялікім здзіўленні, калі ўсю дарогу з Беластока ў родны Доўгі Брод праехаў я пад ліўнем дажджу, а гэта васемдзесят кіламетраў. Заехаўшы на месца, не пабачыў я аніводнай калюжыны ці прамоклай зямлі. На маё пытанне, ці ў нас не было дажджу, бацька спакойна адказаў, што не было і відаць яшчэ доўга не будзе. Раніцай упала некалькі кропель, але было іх столькі быццам бацюшка крапілам пакрапіў або кот наплакаў. Нават не парасіла. Вось такія карцінкі павіталі мяне ў пачатку пабыўкі ў роднай вёсцы. Потым пайшлі апады дажджу, але доўгачаканыя лісічкі так і не з'явіліся ў навакольных лясах. Ведаю, што з-за гэтага сярод грыбнікоў-шаленцаў пракацілася хваля дрэнных эмоцый, бо без дай прычыны пачалі яны сварыцца са сваімі блізкімі і суседзямі. А ў некаторых выпадках яны прыгадалі сабе забытыя замовы і шаптанні, каб нашкодзіць абы-каму, хто ў той момант трапіць пад руку.

А можа поўня месяца і яго зацьменне нейк патрапілі так закружыць у абарыгенскіх пушчанскіх галовах? Вядома, перыяд летняга сонцастаяння заўсёды дзейнічае на нашы душы і сферу эмоцый. Калі дакласці яшчэ свята Яна, калі сонца іграе колерамі з самага свайго ўсходу і пакупацца ў яго промнях, то так як атрымаць цудоўную моц космасу ў наша чалавечае цела. У гэтым годзе на бясхмарным небе яно само купалася і іграла безлічччу адценняў сваёй светласці. Нічога затым дзіўнага, што на Яна вечарам пачалі разгарацца купальскія вогнішчы дзеля ачышчэння агнём і вадою. Гэты перыяд — час зёлак, варажбы, спляцення ў міжчалавечым варыянце духоўнага з цялесанай жарсцю. Патрэба прадаўжэння роду чалавечага атрымлівае гэтымі днямі касмічна-прыроднае бласлаўленне. Бо можам разам з зямлёю, вадою, агнём, сонцам і зоркамі закружыцца ў адзіным, узаемасуцэльным танцы таямніцы жыцця. Закружыцца ў ачышчаным ад пошласці, крыўдлівасці, гневу танцы, засяроджаным на пошуках сваіх папараць-кветак. А кожнаму з нас, у кожным узросце з'яўляецца яна ў іншым выглядзе. Бо памкненне да дабра і надзеі — наш унутраны імператыў зямнога вандравання. Таму, калі бачым і чуем, што людзі радасна сустракаюць, нягледзячы на ўзрост, касмічны сонцазварот, то прынамсі ведаем, што зямля яшчэ жывая сваёй сілай. Хопіць глянуць, як гэта выглядае ў краінах усіх нашых паўночных суседзяў, дзе купальскі перыяд надалей з'яўляецца галоўным святам і парадкам іхняга касмагічнага свету. Пабачыць прыгажосць паміж небам і зямлёю, значыць у шчаслівасці перажыць наша жыццё.

Яўген ВАПА

# V Пікнік з беларускім словам

## Загудзела ва ўрочышчы «Замок» — ажно камары паўцякалі!

Мова пра пікнік з беларускім словам, які ўжо пяты год, запар, ладзіць паэт, мастак, грамадскі дзеяч, гаспадар, дырэктар Віктар Стахвюк з Трасцянкі. Свята, як агучылі ў беларускамоўных СМІ, набыло ўжо міжнародны характар, а гэта дзякуючы прысутнасці літаратуразнаўцы і паэткі Алы Петрушкевіч з Гародні і Ірыны Мацкевіч, паэткі і навуковага супрацоўніка з Мінска, у якой падляшскія карані. Да кампаніі меў далучыцца яшчэ Сяргей Чыгрын са Слоніна, але ў яго не атрымалася з паездкай.

— Я яшчэ далучыў бы тут Алеся Аркуша, — кажа Віктар Стахвюк, — бо ён хоць жыве і піша ў Беластоку, дык думае пармінску...

Прысутнасць паэтаў-суродзічаў з Беларусі, гэта не толькі напамін пра гістарычныя сувязі. Калі перад народам з'яўляюцца творцы як Ала Петрушкевіч, — гэта вясна на душы і радасць для вачэй. Спадарыня Ала выступае менавіта так, каб з дапамогай ласкавых жэстаў і пафасных слоў пра літаратуру, абудзіць дрымучыя мары і летуценні. А публіка, асабліва мужчынскі пол, заварожаны яе жэстамі, мілагучнымі слоўцамі і прыродным акцёрствам слухае паэтку ўсімі пачуццямі, целам і душой...

Можна сказаць і такое — пасля спадарыні Алы, якая, здавалася, захапіла ўсё захапленне трасцяніцкай публікі, складана было выступаць, штосьці разбудзіць, распаліць...

Гэты выклік падняў Міхась Андрасюк, які зачытаў свае знакамітыя мініяцюры, трапляючы ў сэрцы публікі. У час чытанкі (што хіба здзіўляла нават самога аўтара) панавала ўзорная суцішанасць і засяроджанасць. Аўтар, падбадзёраны добрым настроем і воплескамі, сам прапанаваў новыя творы і чытаў іх, рассяваючы дзіўную цішыню.

Вялікую цікавасць наклікалі вершы пані Лілі з Сацоў. Народная паэтка як ніхто адчувае энергетыку месца, а свае вершаваныя творы пра жыццё і навакольную прыроду лічыць аздараўленчай тэрапіяй. Лідзія Длугалэнцкая, — мова пра паню Лілю, — Максімючка родам з Трасцянкі. Яна, пасля гадоў гарадскога жыцця, вярнулася жыць у суседнія Сацы, у «Краіну адкрытых аканіц» і сама адкрылася на паэтычныя радкі. Вершы складае ў *пальшчызне*... бо так іграе яе душа.

Варта было прыехаць у Трасцянку, каб паслухаць Алеся Аркуша, які распавёў пра свой новы раман «Спадчына». Для мужчын надта вабнай падалася партызанская тэма і беларускі *Робінгуд, партызан* Шагойка, які падрабляў дакументы і ратаваў ад голаду і ссылак процьму народу. Раман Алеся Аркуша, які сам сябе лічыць полацкім пісьменнікам, як не цікава, узнік у Беластоку. Ірына Мацкевіч зачытала між іншым верш прысвечаны светлай памяці Міхалу Анемпадыставу, мінскаму мастаку і паэту, звязанаму з Бардаўскай восенню.

А Барбара Гаральчук прыехала з радыёперадачай на «Радыё Рацыя» і заставіла слухаць свае вершыкі «з камп'ютара». Паколькі выступаць ёй прыйшлося ўжо на трэцяй гадзіне чытанняў, поўная ўражанняў публіка зрушылася з месцаў і пачала застаўляць сталы.

Віктар Стахвюк апісаў урочышча «Замок» у сваёй кнізе «Сіва залуля», славячы ўрочышча як старажытны, метафізічны цэнтр. На старонках сваёй кнігі ён прыгадаў таксама ганаровыя прынцыпы трасцяніцкага мужыка. Самай важнай справай тут кампанія. Кожны прыстойны гаспадар раз у год быў абавязаны зладзіць гасціну для сваякоў (звычайна на парафіяльнае свята). Бо калі гаварыць пра публіку «Пікніка з беларускім словам», гэта ў пэўным сэнсе духовыя сваякі гаспадара. Дзелавітыя людзі, інжынеры, райцы, пажарнікі, інтэлігенты...



Віктар Стахвюк і госці



Ала Петрушкевіч і Мхась Андрасюк



Усе яны дзейсна ўключыліся ў падрыхтоўку імпрэзы. Хлопцы самі ўстанаўлівалі святло і падключылі гукаўзмацняльнікі, а дзяўчаты завіхаліся як вавёркі, рыхтуючы смакавітае застолле, грыль і вогнішча для дзяцей. Кожны адчуваў сябе тут важным і патрэбным. Сама бяседа напамінала вясковую гасціну 70-х гадоў, з гудзеннем, прыкольнымі жартамі і здаровым рогатам:

*— Поглідэтэ якія Гандзя файны цыцькі мае!* — прадставіў мяне гаспадар, саджаючы сярод членаў таварыства Русь.

Мае суседзі, відавочна збянтэжаныя такой фамільярнасцю Віктара, на момант адракліся ад вялікарускага фанатызму. (Таварыства «Русь» — як сказаў мне адзін застольнік, прызнае толькі Рускую імперыю і больш нікога!).

У нашым кутку з'явіліся гутаркі пра літаратуру:

— Я то і ведаў, што так гладка можна напісаць штось па-беларуску, — прызнаўся інжынер Жэнік.

Прэзентацыі вершыкаў прыгадалі яму ўрокі беларускай мовы, якія ў Трасцянцы вяла спадарыня Лена Тапалянская:

— О-го! Яна нас добра муштравала!

Спадар Жэнік уголас уяўляў, як будзе па начах чытаць падараныя яму беларускія кнігі.

Ён, як і яго сябры з аб'яднання «Русь», ахвотна зацягнулі пад маю каманду «Беларусачку»:

*Я гляджу на твае косы русыя...*

Аказалася, што мы пабывалі на тым жа канцэрце Данчыка ў Беластоку, у другой палове 80-х гадоў.

— О, гэта было штось незабыўнае, — захапіўся ўспамінам пан Жэнік.

А калі пра камары — дык гэта зусім ужо заблытаная справа. Якраз 30 чэрвеня, калі ладзіўся трасцяніцкі пікнік, павеяла холадам са Скандынавіі і магчыма люты вецер адагнаў крыважэрных насякомых. Хоць сам гаспадар даказваў іншае. Паводле яго, урочышча «Замок» ахінае белая энергія ды яна адганяе адсюль камароў і ўсякай масці насякомых.

Падрабязнасці выкладзены ў натхняльнай кнізе «Сіва зазуля», напісанай на мове Трасцянкі.

Віктар Стахвюк, як арганізатар і спонсар пікніка, так гаварыў пра сваё мерапрыемства:

— Важна, каб наш народ пабачыў беларускіх творцаў, каб натхніўся энергіяй іх слова і энергетыкай гэтага месца. Нашы людзі заўсёды святкавалі і ўзвышаліся на прыродзе — ці то спявалі яны песні на лавачках, ці то хадзілі з карагодамі па полі, ці ладзілі свае гульні ў лесе. Бо гэта ў нашым характары і крыві!

На прыродзе мы моцныя і свабодныя...

Фота і тэкст
**Ганны КАНДРАЦЮК**

## Чаму не ангелы?

**У карэктараў ёсць заўсёды схільнасць да слоўніковай стараннасці. Дый з-за прынцыповасці часам гублеецца аўтэнтычнасць слоў, кантэкст гістарычнай традыцыі мовы. Так здарылася са словам „ангел”, які канчае тэкст ніжэйпадпісанага „Пінская фантасмагорыя”, надрукаваны ў „Ніве” з 24 чэрвеня за г.г.**

У найноўшым „Тлумачальным слоўніку беларускай літаратурнай мовы” (Мінск, 2016) знаходзім толькі слова „анёл”. Гэта факт. Але ж слова „ангел” у літаратурнай беларускай ужываецца. Дый у найбольш аўтарытэтнай кнізе — „Новым Запавеце Госпада Нашага Ісуса Хрыста”, выдадзенай у Мінску ў мінулым годзе. Над перакладам доўгія гады працавала Біблейская камісія Беларускай Праваслаўнай Царквы пад кірункам адказнага сакратара а. прафесара Сергія Гардуна. І хаця ў складзе Камісіі працавалі толькі праваслаўныя багасловы, філолагі і мовазнаўцы (у тым ліку прафесар Іван Чарота), пераклад быў рэкамендаваны для міжканфесійнага карыстання. „Біблейскае Таварыства” ў Рэспубліцы Беларусь яшчэ ў мінулым годзе выдала кішэнны варыянт „Новага Запавету” ў тым жа перакладзе.

Хопіць адкрыць першыя раздзелы Святога Дабравесця паводле Матфея, каб пераканацца ва ўжыванні перакладчыкамі слова „Ангел”. „Калі ж яны адыйшлі, — вось, Ангел Гасподні зьяўляецца ў сне Іосіфу...” (II, 13). „Ангелам сваім ён пакажа пра Цябе, і на руках панясуць Цябе...” (IV, 6).

Як сказаў а. Сергій Гардун на інаўгурацыі „Пролагу” ў Бельскім беларускім ліцэі (19 сакавіка г.г.), перакладаючы Новы Запавет, камісія старалася трымацца традыцыйных, гістарычных слоў, якія ўжываліся беларусамі сотнямі гадоў. І ў часах Скарыны, і раней. Калі ў старабеларускай мове і беларускіх гаворках слова „ангел” выступала заўсёды і паўсюль, дык чаму заступаць яго паланізмам „анёл”.

Падобна сітуацыя выглядае з іншымі словамі, на прыклад: „благадатны”, „благадаць”, „благаслаўлёная”. Іх не знойдзем у „Тлумачальным слоўніку”. Ёсць за тое тут тлумачэнні слоў „блага”, „благата”, „благі”, „блажэць” — усе ў адмоўным сэнсе. Праўда, што ў некаторых беларускіх гаворках слова „благі” адносіцца да дрэннага, непрыемнага або худога. Але ж словы „благадаць”, „благаславенне”, „благадатны” ў свядомасці большасці беларусаў маюць толькі добрую канатацыю. Бо значэнне гэтых слоў замацавана тысячагадовай традыцыяй. Яны ўжываліся і ўжываюцца ў багаслужбах, дамашніх малітвах. Ды не трэба іх мяняць на іншыя. Гэта сведчанне нашай тоеснасці і гістарычнай закаранеласці ва ўсходнеславянскай моўнай стыхіі.

Паводле мяне, характар друкаванага тэксту не павінен мяняць нашых адносін да такога тыпу слова як „Ангел”. Ці гэта будзе тэкст багаслоўскага характару, ці рэпартаж або рэцэнзія кнігі, такое гучанне слова найбольш уласцівае беларускай мове.

**Дарафей ФІОНІК**

## Фэст у Старым Ляўкове

12 ліпеня гэтага года ў Стараляўкоўскай парафіі адзначаецца прыхадское свята Пятра і Паўла. Сёлета пасля поўдня ў гэты дзень у Старым Ляўкове Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета адбудзецца народны фэст з удзелам мастацкіх калектываў. У праграме канцэрт „Din Dong”, „4 Ever”, „Вэрвочкі” з Орлі, „Цаглінак” са Старога Ляўкова і „Нараўчанак” з Нараўкі. Вечарам да танцаў іграць і спяваць будзе „Аксель”.

Пачатак культурна-забаўляльнага мерапрыемства а гадзіне 17-й.

**(яц)**

# АЧС — ліквідацыя свінафермы ў Шчытах




Яшчэ 30 сакавіка г.г. на сесіі Гміннай рады ў Орлі солтыс Дыдулёў Антон Голуб гаварыў:

— Наша Арлянская гміна ўключаная ў чырвоную зону АЧС (афрыканскай чумы свіней). А да гэтай пары выпадкаў заражэння свіней у нашай гміне не было; былі ў зоне Бельска і Гайнаўкі («Ніва» ад 29.04.2018 г.: «Кароў няма — ходзяць зубры, свіней няма — ходзяць дзікі»).

І вось прайшлі толькі два месяцы і пагроза стала фактам! Пра свінаферму ў Шчытах-Навадворах, пяць кіламетраў ад Орлі, вестка хутка панеслася не толькі па ваколіцы, але і па Падляшскім ваяводстве.

Лекар ветэрынарыі Юзаф Бжана, старшы інспектар па справах біялагічнай гігіены ў Бельску-Падляшскім:

— Свінні пачалі хварэць, здыхаць. На гэта няма лякарстваў. Гэта новая хвароба.

У нядзелю, 3 чэрвеня, узоры ад свіней са Шчытоў-Навадвораў выслалі ў Пулавы. У сераду было ўжо вядома, што гэта АЧС. У Бельску склікана была экстранная нарада з удзелам ваяводы. Было прынята рашэнне пра ліквідацыю фермы ў Шчытах-Навадворах.

У чацвер і пятніцу пад наглядам павятовых інспектараў і ваяводскага лекара ветэрыны быў праведзены забой электратокам усіх, каля шасці тысяч, гадаваных там свіней, у тым ліку каля шасцісот свінаматак. Заражаныя мярцвіны былі забраны аўтафурамі для ўтылізацыі. Першага дня загрузілі сем аўтафур.

Чарговай справай будзе дэзінфекцыя ўсіх будынкаў, а гэта не адна, але некалькі дэзінфекцый, саскрэбванні. Кошты дэзінфекцыі вялікія і яны будуць пагашаны казной.

* * *

Як паказвае жыццё, афрыканская чума свіней на ўсходзе краіны не спыняецца і не відаць станоўчых перспектыў. Старшы інспектар па справах біялагічнай гігіены Юзаф Бжана прызнае, што ў Падляшскім ваяводстве ўжо звыш дзесяці тысяч меншых свінаферм

аў спынілі дзейнасць, бо не хочуць або не могуць задаволіць новых патрабаванняў, напрыклад матаў, высокіх у паўтара метра агароджаў уладанняў і т.п. У Люблінскім ваяводстве ёсць ужо тры ачагі хваробы.

Паводле Юзафа Бжаны, задума загарадзіць усходнюю граніцу — добрая. Яна ўзнікла ўжо некалькі гадоў таму, але тады яна не была зрэалізавана. Да таго ж могуць быць і іншыя шляхі распаўсюджвання гэтай хваробы, для прыкладу, едзе турыст з Усходу і па дарозе выкіне бутэрброд з мясам. Немагчыма разгадаць, што будзе далей.

* * *

У Арлянскай гміне працуюць яшчэ дзве свінафермы ў Вульцы-Выганоўскай, адна на калёніі Антанова каля Орлі, бадай адна меншая ў самой Орлі; адзін селянін у Кашалях трымае таксама каля пяцідзесяці штук свіней, ёсць свінаферма ў недалёкай ад Шчытоў Крывой, што ў Бельскай гміне. Зараз тэма гадоўлі свіней, гаворка пра яе выклікае ў людзей трывогу. Улічваючы ачаг АЧС у Шчытах, уладальнікі навакольных свінафермаў не могуць цягам сарака дзён прадаваць сваіх кормнікаў. А капрызы надвор’я і скапленне свіней у фермах не спрыяюць жывёлам.

**Міхал МІНЦЭВІЧ**

# Час сказаць праўду

Канчаецца мая шасцітыднёвая шпіталізацыя на рэабілітацыйным аддзяленні. Ці апраўдалі мой давер гайнаўскія лекары, пра якіх згадаў я ў пісьме ад 10 лютага да дырэктара лячэбніцы ў Гайнаўцы? Не зусім. Паколькі пачатак шпіталізацыі ў аддзяленнях унутраных хвароб і артапедычным быў удалы, дык на рэабілітацыйным спатклалі мяне першыя асечкі. Ардынатар не забяспечыў мне месца на рэабілітацыйным аддзяленні, хоць прэсавая заступнік ад імя дырэктара ў пісьме ад 12 сакавіка гарантавала такое, як і пазнейшую кансультацыю на аддзяленні з артапедам. Прэсавая заступнік дaручыла ардынатару накіраванне 20 сакавіка. Тэрмін ардынатар вызначыў на 28 траўня. Чаму з двухмесячнай адтэрміноўкай? Ардынатар не абавязаны тлумачыцца. Няўжо слова дырэктара для падначаленага ардынатара нічога не абазначаюць? Хто затым кіруе шпіталем? Не цяжка здагадацца.

Цар, Бог і воінскі начальнік — так называюць на Гайнаўшчыне ардынатара рэабілітацыйнага аддзялення. Ён аднаасабова рашае каго і калі прыняць у шпіталь. І маем тое, што маем. Яну Л. вызначыў тэрмін на 20 сакавіка 2018 года. Калі пацыент стаўіўся на прыём у бальніцу, дык выявілася, што няма месца. Адтэрміналі яму на 23 красавіка. І за другім разам не было Яну Л. месца ў палаце. А калі пачалі адтэрміноўваць чарговы раз на травень, дык не мужык стрымаўся і загнуў матам. Месца знайшлося. Ці так павінны шанаваць хворых з абмежаваннямі ў публічным шпіталі? Іншы прыклад. Марыя С. ад дванаццаці гадоў апякуецца партнёрам. Дванаццаць гадоў таму партнёр атрымаў апаплексічны ўдар. Накіраванне на шпіталізацыю выдаў неўролаг. Два гады жанчына хадайнічае за месца на шпітальную рэабілітацыю. Безвынікова. Для вяскоцай кабеты ардынатар недаступны. Калі яго можна заспець на працы, цяжка сказаць. Падобна справа маецца з уік-эндавымі пропускамі для пацыентаў. Адным дае, іншым адмаўляе. Мне адмовіў. З пропускамі справа больш складаная. На якой аснове ардынатар выдае пацыенту пропуск кожную нядзелю? Мне, напрыклад, патлумачыў, што на аснове закона. Нават прэсавы тэкст захаваў, у якім пра гэта пішуць і мне абяцаў паказаць. Але я не следчы і не прашу доказаў. Для такіх спраў ёсць выпучаны органы і няхай гэтым займаюцца. Я прад’яўляю адно праблемы. Але не канец гэтаму балагану. 29 траўня каля дзясятай вечара разбудзіў мяне гучны супрацьпажарны сігнал. «Што здарылася?» — пытаю заспаны сяброў па палаце. «Супрацьпажарная трывога», — адказалі. Пазней медсястра сказала, што супрацьпажарная сістэма адрэагавала, мабыць, на дым з папяросы. Фальшыўка, значыцца. А калі б некалькі мінут пазней сапраўды трывожны сігнал аб’явілі, дык што было б тады? Кашмар! Хто за гэта адказваць будзе? Усявышні? Ёсць пры гэтым больш складаная справа. Як выяўляць такія праезды да дому ў час шпіталізацыі? У шпітальным пасведчанні запісана, што пацыент прабываў на лячэнні ад першага дня прыёму па апошні да выпіса з бальніцы. Ці гэта праўда? Ардынатара гэта не хвалюе. Яму ніхто не пагражае. За ім сцяною стаіць усё рэабілітацыйнае аддзяленне. Ці адзін пацыент нешта можа зрабіць?

(заканчэнне будзе)

**Уладзімір СІДАРУК**

# Поспех маладых дакументалістаў

4 ліпеня гэтага года ў самаўрадавай святліцы ў Старым Ляўкове Гайнаўскага павета адбылася прамоцыя фотаальбома пад загалоўкам „Мы адсюль”. Выдаўцом яго з’яўляецца Гмінны асяродак культуры ў Нараўцы.

Здымкі зрабілі юнакі і дзяўчаты, якія пражываюць у розных вёсках Нараўчаншчыны, між іншым, у Старым Ляўкове (найбольш), Заблотчыне, Нараўцы, Семяноўцы і Тарнопалі. Усе яны — 12 асоб — члены Клуба маладых дакументалістаў: Кшыштоф Бірыцкі, Ізабела Бароўская, Карнэлія Барэчка, Алівія Кузьма, Юлія Лясота, Магдаліна Лясота, Патрыцыя Леўша, Эрнест Мірановіч, Вікторыя Патонец, Габрыеля Рэцька, Моніка Савіцкая і Ян Семяняка. Яны рэалізавалі праект „Выраўноўваць шанцы”. Яго мэта — забяспечыць маладым магчымасць роўнага старту ў жыццё. У даволі тоўстым альбоме змешчана 120 чорна-белых фотаздымкаў, зробленых дакументалістамі ў сваім наваколлі. Гэта добрая памятка для патомных.

З нагоды выхаду альбома ў святліцы з моладдзю сустрэліся войт Нараўчанскай гміны Мікалай Павільч, дырэктарка ГАК Галена Рэент, радныя ды солтысы з трох вёсак Нараўчанскай гміны — Лявон Хлябіч і Валянціна Панькоўская з Нараўкі, Ян Целушэцкі з Новага Ляўкова і Станіслаў Садоўскі з Тарнопаля. Падзяліліся яны сваімі заўвагамі адносна фотаальбома „Мы адсюль”.

**Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**





# Сусветная зараза не ведае межаў

**Больш 160 тысячам еўрапейцаў паставілі дыягназ ВІЧ-AIDS у мінулым годзе. 80 працэнтаў з іх з'яўляюцца жыхарамі Усходняй Еўропы. У Еўрапейскім Саюзе было зарэгістравана 29 тысяч выпадкаў. Даныя прадставіла еўрапейскае аддзяленне Сусветнай арганізацыі аховы здароўя (СААЗ).**

У цяперашні час, па ацэнцы ААН, ВІЧ / СНІД займае 5-е месца сярод прычын смяротнасці ў свеце. Колькасць людзей, якія жывуць з ВІЧ-інфекцыяй, складае, паводле ацэнак ААН, 35 млн. чалавек. Напрыклад, за 2013 год у свеце заразіліся ВІЧ-інфекцыяй 2,1 млн. чалавек, 1,5 млн. чалавек памерлі ад хвароб, звязаных з ВІЧ-інфекцыяй.

Разам з тым, дзякуючы намаганням, што прымаюцца сусветнай супольнасцю па пашырэнні доступу да антырэтравруснай тэрапіі, у 2013 г. лік новых выпадкаў ВІЧ-інфекцыі сярод дзяцей стаў на 52% меншы, чым у 2001 годзе. А колькасць смерцяў, абумоўленых СНІДам, зменшылася на 30% у параўнанні з пікавым паказчыкам у 2005 годзе.

Эпідэмія ВІЧ расце хутчэй, чым калі-небудзь. Ніколі раней у Еўропе не зарэгістравана так шмат новых выпадкаў з'яўлення віруса. Не толькі расце колькасць выпадкаў ВІЧ-інфекцыі, але і лік людзей са СНІДам. Ва Усходняй Еўропе за апошняе дзесяцігоддзе лік выпадкаў смяротнай хваробы амаль падвоіўся. «Калі гэтая тэндэнцыя захаваецца, мы не дасягнем мэты спынення эпідэміі ВІЧ да 2030 года» — папярэджвае д-р Жужанна Якаб, дырэктар Рэгіянальнага бюро СААЗ для Еўропы.

Больш за палову з гэтага, на жаль, выявілася ў позняй стадыі інфекцыі. На думку экспертаў у СААЗ, гэта позняя дыягностыка спрыяе далейшаму распаўсюджванню віруса. Чым пазней выяўлены вірус, тым больш верагодна, што будзе развівацца ў заражанага смяротная хвароба СНІД. У Еўрапейскім Саюзе трэба тры гады для дыягностыкі віруса. Гэта сярэдняе, што выцякае з даклада СААЗ. Па словах прадстаўнікоў арганізацыі, якія займаюцца аховай здароўя, гэта, безумоўна, задоўга. Дзве трацiны новых выпадкаў СНІДу ў Еўрапейскім Саюзе адбыліся ўсяго праз тры месяцы пасля пастаноўкі дыягназу ВІЧ-інфекцыі. Гэта азначае, што тыя людзі былі заражаныя шмат гадоў таму.

**Эпідсітуацыя па ВІЧ-інфекцыі ў Рэспубліцы Беларусь.**

Па стане на 1 верасня 2017 г. у РБ адзначаны: 23 702 выпадкі ВІЧ-інфекцыі, 18 438 чалавек, якія жывуць з ВІЧ, паказчык распаўсюджанасці: 194 на 100 тысяч насельніцтва.

Агульная колькасць выпадкаў ВІЧ-інфекцыі ва ўзроставай групе 15-49 гадоў (падлеткі і дарослыя) складае 22 016 чалавек (удзельная вага ў агульнай структуры ВІЧ-інфіцыраваных — 92,8%). За 8 месяцаў 2017 г. ва ўзроставай групе 15-49 гадоў зарэгістравана 1317 выпадкаў (88,7%). За аналагічны перыяд 2016 г. — 1318 выпадкаў (87,3%).

За 8 месяцаў 2017 г. доля ў парэнтэральным шляху перадачы ВІЧ склала 23,0% (340 чалавек), доля палавога шляху перадачы ВІЧ — 75,7% (1124 чалавекі). За 8 месяцаў 2016 г. — 26,2% (396 чалавек) і 71,8% (1084 чалавекі) адпаведна. На іншыя шляхі перадачы (вертыкальны, неўстаноўлены) прыпадае 1,3% (20 чалавек).

У **Гомельскай вобласці** за ўвесь перыяд назірання (1987-01.03.2017 гг.) зарэгістраваны 9701 выпадак ВІЧ-інфекцыі, колькасць людзей, якія жывуць з ВІЧ — 6880 (паказчык распаўсюджанасці склаў 484,3); у **Мінскай вобласці** — 3347, колькасць людзей, якія жывуць з ВІЧ — 2740 (192,6); у г. Мінску — 4230, колькасць людзей, якія жывуць з ВІЧ — 3665 (185,6); у **Магілёўскай вобласці** — 1409, колькасць людзей, якія жывуць з ВІЧ — 1200 (112,7); у **Брэсцкай вобласці** — 1744, колькасць людзей, якія жывуць з ВІЧ — 1364 (98,4)**;** у **Віцебскай вобласці** — 1214, колькасць людзей, якія жывуць з ВІЧ — 962 (81,0); у **Гродзенскай вобласці** — 1004, колькасць людзей, якія жывуць з ВІЧ — 774 (73,9). Агульная колькасць выпадкаў ВІЧ-інфекцыі ва ўзроставай групе 15-49 гадоў складае 21 086 чалавек (удзельная вага ў агульнай структуры ВІЧ-інфіцыраваных — 93,1%. За 2 месяцы 2017 г. ва ўзроставай групе 15-49 гадоў зарэгістравана 387 выпадкаў (89,8%).

Паводле кумулятыўных даных (1987-01.03.2017 г.) 37,3% (8 446 чалавек) інфіцыраваных вірусам імунадэфіцыту чалавека заразіліся парэнтэральным шляхам (пры ўнутрывенных уводзінах наркатычных рэчываў), удзельная вага асоб, інфіцыраванне якіх адбылося палавым шляхам, складае 60,5% (13 694 выпадкі). За 2 месяцы 2017 г. доля парэнтэральнага шляху перадачы ВІЧ склала 26,9% (116 чал.), за 2 мес. 2016 г. — 27,6% (120 чал.), доля палавога шляху перадачы ВІЧ за 2 мес. 2017г. — 71,7% (309 чал.), за 2 мес. 2016 г. — 70,7% (308 чал.).

У цэлым па рэспубліцы ўдзельная вага **жанчын** у агульнай колькасці ВІЧ-станоўчых складае 40,1% (9088 чал.), **мужчын** — 59,9% (13 561 чал.). За 2 мес. 2017 г. удзельная вага жанчын — 34,3% (148 чал.), мужчын — 65,7% (283 чал.), 2 мес. 2016 г. жанчын — 35,5%, мужчын — 64,5%. З 1987 па 01.03.2017 г. ад ВІЧ-станоўчых маці нарадзілася 3470 дзяцей. Дыягназ «ВІЧ-інфекцыя» пацверджаны ў 291 дзіцяці, народжанаму ад ВІЧ-станоўчых маці. Усяго ў рэспубліцы сярод дзяцей ва ўзроставай групе ад 0 да 14 гадоў зарэгістравана 313 выпадкаў ВІЧ-інфекцыі.

**Кумулятыўныя колькасць** выпадкаў СНІДу на 01.03.2017 г. — 5 739. За ўвесь перыяд назірання (1987-01.03.2017 гг.) сярод ВІЧ-станоўчых пацыентаў памерла 5044 чалавекі.

**(Крыніца: *Аддзел прафілактыкі ВІЧ / СНІДу Рэспубліканскага цэнтра гігіены, эпідэміялогіі і грамадскага здароўя).***

**Зман 1: колькасць інфіцыраваных не расце.**




Птушыны грып, ліхаманка Эбола і іншыя эпідэміі, пра якія актыўна кажуць у апошні час, неяк засунулі на другі план праблему распаўсюджання ВІЧ-інфекцыі. Між тым, смяротная хвароба нікуды не падзелася і нават не адступіла. Па даных Міністэрства аховы здароўя, за перыяд з 2000 г. па 2013 год узровень першаснага захворвання ВІЧ-інфекцыяй (лік пацыентаў з упершыню ўстаноўленым дыягназам на 100 000 чалавек насельніцтва) вырас у 3,1 разы, у тым ліку сярод жанчын — у 4,6 разы, сярод мужчын — у 2,4 разы.

Усяго з 1987 года да 1 лістапада 2014 г. у Беларусі зарэгістравана 17 102 чалавекі, інфіцыраваных ВІЧ, з іх 6969 жанчын. За гэты ж перыяд памерла 3894 ВІЧ-інфіцыраваных, з іх у стадыі СНІДу — 2203 чалавекі.

**Зман 2: ВІЧ / СНІД — хвароба маладых**

Сапраўды, пераважная большасць ВІЧ-інфіцыраваных у Беларусі — маладыя людзі ва ўзросце ад 15 да 29 гадоў. Іх удзельная вага ў агульнай структуры ВІЧ-інфіцыраваных складае 56%. Аднак тэндэнцыя апошніх гадоў такая, што ўдзельная вага маладых людзей ад 15 да 29 гадоў у агульнай колькасці ВІЧ-інфіцыраваных з упершыню ўстаноўленым дыягназам пастаянна памяншаецца. Калі ў 2005 г. гэты паказчык склаў 56,2%, то ў 2013 годзе — 28,2%, а за 10 месяцаў 2014 года — 27,4%. Разам з гэтым, павялічваецца колькасць ВІЧ-інфіцыраванага насельніцтва з упершыню ўстаноўленым дыягназам ва ўзросце 30 гадоў і старэйшых (2005 год — 39,1%, 2013 год — 70,7%).

— З улікам нарастальнай ролі палавога шляху перадачы ВІЧ-інфекцыі варта адзначыць высокую распаўсюджанасць ВІЧ-інфекцыі сярод насельніцтва ва ўзроставых групах 39 гадоў і больш, — канстатуе ўрач-эпідэміёлаг аддзела прафілактыкі ВІЧ / СНІД Рэспубліканскага цэнтра гігіены, эпідэміялогіі і грамадскага здароўя Святлана Сяргеенка.

**Зман 3: ВІЧ / СНІД — атакуе непераборлівых мужчын**

У Беларусі актывізаваўся выхад ВІЧ з уражлівых груп насельніцтва **ў агульную папуляцыю.**

— У працэсе распаўсюджвання ВІЧ-інфекцыі ўцягнутыя сацыяльна адаптаваныя людзі працаздольнага ўзросту, а сярод асоб, якія жывуць з ВІЧ-інфекцыяй, павялічваецца доля жанчын, — адзначала Святлана Сяргеенка.

У Белстаце дапоўнілі словы спецыялісткі. Колькасць ВІЧ-інфіцыраваных жанчын у 2013 г. у параўнанні з 2012 годам павялічылася на 29,6%. За 10 месяцаў 2013 г. доля прадстаўніц прыгожага полу ў агульным ліку ВІЧ-інфіцыраваных склала 43,1%.

Як вынік — расце колькасць **ВІЧ-інфіцыраваных дзяцей**, народжаных ВІЧ-інфіцыраванымі маці (у 2000 годзе — 5 дзяцей, у 2013 годзе — 17). За ўвесь перыяд назірання сярод дзяцей ва ўзроставай групе ад 0 да 14 гадоў зарэгістравана 246 выпадкаў ВІЧ-інфекцыі.

**Зман 4: ВІЧ / СНІД «жыве» ў асноўным у «распешчанай» сталіцы**

Насуперак распаўсюджанаму меркаванню, у Беларусі ВІЧ-інфекцыя рэгіструецца ва ўсіх рэгіёнах, а не ў перапоўненай сталіцы, куды з'язджаюцца людзі з усёй краіны. Дарэчы, пачынаючы з 1996 года, самым няшчасным сярод рэгіёнаў рэспублікі з'яўляецца **Гомельская вобласць**. У 2013 годзе на 100 тысяч чалавек насельніцтва тут зарэгістравана 46 выпадкаў першаснага захворвання ВІЧ-інфекцыяй супраць 16,2 выпадку ў сярэднім па Беларусі. А вось найбольш нізкі ўзровень — у Гродзенскай вобласці: 7 выпадкаў на 100 тысяч чалавек насельніцтва. За 10 месяцаў 2014 г. узровень першаснага захворвання насельніцтва ВІЧ-інфекцыяй па рэгіёнах (у працэнтах да агульнай колькасці ВІЧ-інфіцыраваных) сфармаваўся такім чынам: Брэсцкая вобласць — 10%; Віцебская вобласць — 6,3%; Гомельская вобласць — 40%; Гродзенская вобласць — 4,8%; Мінск — 19,2%; Мінская вобласць —13,7%; Магілёўская вобласць — 6%.

**Зман 5: доступ да лячэння абмежаваны**

У Беларусі рэалізуецца Дзяржаўная праграма прафілактыкі ВІЧ-інфекцыі. Яе рэалізацыя дасць магчымасць пашырыць доступ да комплексу медыцынскіх паслуг асоб, інфіцыраваных ВІЧ, ажыццяўляць мерапрыемствы па зніжэнню рызыкі **перадачы ВІЧ ад маці** дзіцяці, праводзіць прафілактычныя мерапрыемствы сярод насельніцтва, удасканальваюцца праграмы навучання і асветы па праблеме ВІЧ-інфекцыі насельніцтва, у тым ліку моладзі, з улікам гендэрнага падыходу.

— У Беларусі доступ да лячэння антырэтравірусными прэпаратамі адкрыты для ўсіх, каму гэта неабходна, — інфармуе лекар-эпідэміёлаг Святлана Сяргеенка. — ВІЧ-інфіцыраваныя пацыенты атрымліваюць усё неабходнае. Пад асаблівым кантролем знаходзяцца мерапрыемствы, накіраваныя на арганізацыю прафілактыкі перадачы віруса ВІЧ ад маці дзіцяці.

Міраслава ЛУКША



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка

для дзяцей і моладзі

*Іван Карсунскі, Марк і Уладзік Кутузавы*



# Цяпер мы не маем спакою...!

Аднойчы мелі мы ў нашым дамку вельмі дзіўную сітуацыю, якой паслядоўнасці палохаюць і цягнуцца далей...

А вось — як гэта здарылася!

Мне даверылі пільнаваць ключ ад нашага дамка, які мы назвалі «бюро судовага выканаўцы ў „Бора-Здруй"». Я і двое сяброў рашылі пажартаваць з іншых хлапцоў. Мы выйшлі з дамка і зачынілі дзверы на ключ. Праз хвіліну мы назіралі дзіўную з'яву. Адзін з нашых сяброў, шустры Ваня, вылез праз акно і пачаў за намі бегаць. Але мы — хуткія хлопцы, не тое што ўцяклі, але і яшчэ схаваліся ад яго. Мікола, які застаўся ў сярэдзіне дамка, закрыў акно і таму Ваня не мог увайсці ў хату. Ён рашыў пайсці за дапамогай да настаўніцы. Пані Аня паклікала нас і сказала, каб больш не рабіць такіх фокусаў, бо як не будзем слухаць, яна забярэ нам ключ ад дамка і сама будзе вырашаць, калі нас выпусціць на двор...

З гэтай пары мы не жартуем з сяброў. Толькі Ваня пераключыўся і не хацеў адступаць. Ён пачаў уваходзіць і выходзіць не праз дзверы, а праз акно. Дзверы ён адкрываў толькі для таго каб праветрыць хатку або дзеля дэкарацыі...

Ну і вось, Ваня, як вы ўжо пабачылі, увесь час залазіць у дамок праз акно. Цяпер мы не маем спакою, баімся, што гэтую дзіўную звычку наш сябар завёў у Беласток.

А трэба дадаць, што ён жыве ў блёку на пятым паверсе!

**Уладзік КУТУЗАЎ**, «Бусел»,
Гімназія ў Нарве

# *Следам нараўчанскіх пісьменнікаў*




*мал. Магды Люнды*

Трэцяга дня Сустрэч «Зоркі» ўся наша група паехала на экскурсію следам нараўчанскіх пісьменнікаў. Пачатак вядомы — агратурыстычны пансіянат «Бора-Здруй».

Лясная дарога прывяла нас на схаваны ў лесе хутар паэта Уладзіміра Гайдука. Далей, з песняй, перасеклі мы Нарву, вакол якой слалася чароўная даліна. Па дарозе сустрэлі мы сялян і звяроў. Мы накіраваліся да хаты Алеся Барскага ў Бандарах. Там паслухалі пра яго жыццё і творчасць, і зноў рушылі ў дарогу...

Аб'ехалі з аднаго боку вадасховішча Семяноўка, мінулі некалькі вёсак і даехалі ў Баравыя. Пабывалі мы ў родным куточку Міры Лукшы. Нам удалося зрабіць здымак з братам паэткі, спадаром Маркам і яго сабачкам Фоксім.

Апошняй вёскай, да якой мы дабіраліся праз старую пушчу, была Гушчэвіна. У гэтай лясной мясціне нарадзіўся архіепіскап Сіман, а зараз на гэтым месцы пражывае Магда Бяляўская, наймалодшая паэтка літаб'яднання «Белавежа».

Па дарозе ў Ляўкова здарылася вельмі нечаканая рэч. Кола пачало губляць сваё паветра. Правая старонка воза была нахіленая. На шчасце, мы былі непадалёк пансіяната. Мінулі манументальны і вялізны вятрак, пераехалі рачулку Баброўку і апынуліся ў «Бора-Здруй».

Там чакала нас лірычная сустрэча з паэткай Мірай Лукшай.

**Марэк КУТУЗАЎ**,
«Нараўчанская ластаўка»,
Гімназія ў Нарве

## Лопнула шына

Ехалі мы па дарозе,
лопнула ў нас шына.
Сумна шыне,
а мне яе шкада.
Дык каб не гаварыць,
пачаў я ў кола-крыжык гуляць.
Стаўлю кола і шыну ўспамінаю,
а я яшчэ цэлай памятаю.
У мяне да яе жаль,
памятаю з ёй дарогу ў даль.
Дык каб не тужыць
вырашыў я ўсё забыць.
Ну, добра, — спрабую!
Але сапраўды я толькі час марную.
Не дапамог я шыне,
таму мы сумуем
і ніякіх пратэстаў не чуем.
Ну ўсё! Канец. Пасумавалі і хопіць!
Нам з шынай расставацца трэба
і пайсці з двара,
таму што ўсім есці пара.

Іван Карсунскі,
«Нараўчанская ластаўка»,
НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія

## УВАГА КОНКУРС!

## № 28-18

**Кветка мая — над вадой,
Ліст — на вадзе самой,
корань — на дне.
Як называюць мяне?
Г.......**

**(Васіль Жуковіч)**

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 22 ліпеня 2018 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадку № 24-2018: туман. Узнагароду, запісную кніжку з беларускім арнаментам, выйграла Аліўка Жэпко з Нарвы. Віншуем!**

# 25 Сакавіка — дзень народзінаў нас як нацыі!

***Інтэрв'ю са Зміцерам Косціным, народжаным у Бабруйску на Беларусі, знакамітым журналістам Радыё Беласток і тэлеканала «Белсат», а раней Радыё Рацыя:***

**«Нараўчанская ластаўка»:** *— Якая розніца ў працы журналіста ў Беларусі і ў Польшчы?*

**Зміцер Косцін:** — Вядома, ёсць розніца ў працы. Каб працаваць у Беларусі, журналісту трэба мець дазвол. Там трэба быць афіцыйным сябрам рэдакцыі, мець рэгістрацыю, нельга быць свабодным журналістам і супрацоўнічаць з рэдакцыямі ў якасці фрылансера.

У Польшчы журналіст мае свабоду.

**«Нараўчанская ластаўка»:** *— Як Вы бачыце беларусаў Падляшша? Што вас здзіўляе?*

**Зміцер Косцін:** — Для мяне вельмі цікавае, што на Падляшшы захаваліся гаворкі. У Беларусі такога няма. Беларусы Падляшша вельмі моцна звязаныя з месцам, адкуль яны родам. У Беларусі бывае так, што калі нехта прыедзе штудзіраваць у Мінск і пабудзе адзін год, ён ужо называе сябе мінчанінам.

Калі спытаць кагосьці ў Польшчы, адкуль ён родам — тут кажуць, што яны з Ласінкі, Кутлоўкі, Валілаў... ці нават нейкага хутара. І яны гэтым ганарацца, расказваюць пра свае месцы як пра вялікія гарады! Дзякуючы Падляшшу, цяпер гавару, што з я Бабруйска.

**«Нараўчанская ластаўка»:** *— Вы размаўляеце з сынам па-беларуску. Ці гэта проста ў Беластоку?*

**Зміцер Косцін:** — Ведаеце, больш складана размаўляць па-беларуску ў Беларусі — не толькі з сынам, а з кім заўгодна. У Беларусі існуе такі комплекс, што беларуская мова нібыта горшая, што на ёй нельга ўсяго выказаць. Я ніколі не адмаўляўся ад беларускай мовы, гэта мова нашай хаты. Пра гэта ведаюць усе суседзі, для іх гэта нармальна. Хоць былі дзіўныя выпадкі, часам нехта казаў: *O, niedługo już wszystkie dzieci będą po białorusku rozmawiać.* І гэта не гаварылі людзі, якія маюць сям'ю ад Ломжы, а тыя, у якіх дзядулі і бабулі ў Гайнаўцы, Міхалове, Бельску...

**«Нараўчанская ластаўка»:** *— Кім Вы хацелі быць у нашым узросце?*

**Зміцер Косцін:** — Я з такога пакалення, што калі мне было 12-14 гадоў, я яшчэ слаба ўяўляў, кім хачу быць у жыцці. Тады не было такой прафілізацыі, як цяпер. Але мне вельмі падабалася гісторыя. Нейкі час



я думаў, каб стаць гісторыкам. Пасля, я падумаў, каб штудзіраваць паліталогію і права.

**«Нараўчанская ластаўка»:** *— Якія ў Вас спадзяванні, калі Кандрат едзе на Сустрэчы «Зоркі»?*

**Зміцер Косцін:** — Для мяне, як для бацькі, гэта гонар, што яго сюды запрасілі. Для яго сустрэчы вельмі важныя. Ён сустракае тут файных людзей, добра праводзіць час. Я не скажу яму, што ён мусіць быць журналістам. Ідзе пра другое. Важна, каб ён шырэй паглядзеў на свет, каб сустрэў іншых людзей, каб паслухаў мовы.

**«Нараўчанская ластаўка»:** *— Хто для вас герой-беларус?*

**Зміцер Косцін:** — Напэўна людзі, якія дапамагаюць адзін аднаму ў цяжкіх жыццёвых абставінах. Таксама такія людзі, якія выказваюць свае меркаванні, хоць іх за гэта могуць уволіць з працы або могуць панесці нейкія страты. Для мяне герой-беларус гэта той, хто бароніць сваю рацыю, сваю годнасць...

**«Нараўчанская ластаўка»:** *— Ці для Вас Дзень 25 Сакавіка важны? Як Вы яго святкавалі ў гэтым годзе?*

**Зміцер Косцін:** — Я працаваў як журналіст, пры тым на розных узроўнях. Апрача таго, што мне трэба было зрабіць перадачу для Радыё Беласток, тады таксама адбыўся мой дэбют на тэлебачанні «Белсат», у жывым эфіры. Я раней ніколі такога не рабіў.

25 Сакавіка для мяне вельмі важны дзень. Для мяне гэта доказ хто мы. Кожны чалавек мае свой дзень народзінаў. 25 Сакавіка — дзень народзінаў нас як нацыі. Мы — беларусы не толькі таму, што ў нас свая мова, што адрозніваемся па нейкіх рысах ад суседзяў, што ў нас свая этнаграфія... У пэўны гістарычны момант мы вырашылі, што як народ мы здольны самі кіраваць сваёй будучыняй. 25 Сакавіка дало нам вялікую сілу, каб адказна падыходзіць да сваёй беларускасці.

**«Нараўчанская ластаўка»:** *— Ці Вы зноў хацелі б жыць у Беларусі?*

**Зміцер Косцін:** — Досвед жыцця ў іншай краіне прывёў да таго, што я ўжо не баюся вяртацца ў Беларусь. Вядома, кожная краіна мае свае спецыфічныя ўмовы для жыцця. Магчыма ў Беларусі крыху цяжэй жывецца ў фінансавым сэнсе, але для мяне, калі казаць пра сэнс духоўны — Беларусь таксама тут.

**Апрацавала**
**Клаўдзія Галінская,**
*Гімназія № 7 у Беластоку*

## У нашай пушчы

У лесе пачалі сварку
дуб, клён і елка.
Яны спрачаліся хто з іх
кароль магутнай пушчы.
Дуб сказаў, што ён найбольшы,
наймагутнейшы і наймудрэйшы.
Клён заявіў: — Я самы прыгожы,
самы цікавы і шматколерны.
Елка памаўчала і кажа:
— Я найважнейшая,
мяне запрашаюць на свята ў хаты.
Яны доўга сварыліся і спрачаліся...
Тады прыйшла бяроза і абвясціла,
што яна будзе каралевай лесу.
Усе пагадзіліся
і жывуць у сяброўстве.
У нашай Белавежскай пушчы.

**Малгажата Астроўская,**
«Белы лес»,
ПШ № 3 у Бельку-Падляшскім

## Польска-беларуская крыжаванка № 28-18

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 24-2018:**

Ключ, суніцы, букет, ас, банк, нектар, мова, рыба, праца. Лета, мы, сноб, Ева, сумка, неба, літарка, ты, кола.

Узнагароды, наклейкі, выйгралі **Магда Якубюк** з Бельска-Падляшскага, **Карнэлія Вшэбароўская, Марцін Галёнка** з Нарвы. Віншуем!



# Жыццёвы і творчы шлях

Легендарнае імя вядомай беларускай пісьменніцы і актыўнай грамадскай дзяячкі на ніве беларускага адраджэння Зоські Верас (Людвікі Антонаўны Савіцкай-Войцік) ведаюць у Беларусі, Літве, Латвіі, Польшчы і іншых краінах, дзе жывуць беларусы. Яе імя вядома ў многіх школах Беларусі, якім яна дапамагала арганізоўваць музеі, у навуковых установах, даследчыкі якіх звярталіся да пісьменніцы за кансультацыямі па самых складаных пытаннях беларускага палітычнага і культурнага руху.

Пазнаёміўся я з Зоськай Верас у студзені 1983 года ў Вільні. На працягу дзесяці гадоў (1980-1990) у час канікулаў і летняга водпуску я працаваў у архівах і бібліятэках Вільні, збіраў матэрыялы для раённай кнігі „Памяць". Зоська Верас, яе дачка Галіна Антонаўна Войцік, зяць Лявон Антонавіч Луцкевіч добра ведалі беларускія матэрыялы ў архівах і бібліятэках Вільні. Яны падказвалі, дзе і што шукаць, давалі розныя парады. Лявон Луцкевіч пазнаёміў мяне з беларускімі мясцінамі Вільні. Вандроўкі па горадзе пазнаёмілі з беларускай культурай у Літве. Многае даведаўся аб жыццёвым і творчым шляху Зоські Верас.

Нарадзілася Людвіка Антонаўна Савіцкая (Зоська Верас) 30 верасня 1892 года ў мястэчку Меджыбож Лятычаўскага павета Падольскай губерні (цяпер Жытомірскай вобласці) на Украіне, у сям'і афіцэра царскай арміі Антона Савіцкага, які паходзіў з Гродна. Маці Эмілія з Садоўскіх паходзіла з Сакольскага павета Гродзенскай губерні, дзе яе бацькі мелі невялікі фальварак Альхоўнікі.

Кожнае лета Людвіка з маці праводзіла ў Сакольскім павеце, наведвала і Гродна. Хоць дома гаварылі па-польску, бацька палякам сябе не лічыў, толькі ліцвінам, падобна як Адам Міцкевіч лічыў сваю бацькаўшчыну Літвой.

З любімым паэтам Адамам Міцкевічам і Уладзіславам Сыракомляй Людвіка пазнаёмілася маючы дзесяць гадоў. Любоў да паэзіі, да роднай прыроды прывілі юнай Людвіцы бацькі. У 9-10 гадоў яна пачала пісаць вершы і апавяданні па-польску. Спачатку бацькі вучылі яе самі: бацька выкладаў матэматыку, а маці — іншыя прадметы. Толькі ў 1904 годзе маці з Людвікай выехала ў Кіеў, дзе Людвіка паступіла ў прыватную гандлёвую школу Людмілы Мікалаеўны Валадкевіч. Тут была багатая бібліятэка з кнігамі на розных мовах, былі кабінеты фізікі, хіміі, біялогіі, фатаграфічная лабараторыя. Абавязковымі мовамі былі руская, французская і нямецкая, неабавязковымі — англійская і польская. Пачынаючы з 3 класа, вучні выдавалі класны часопіс. Праводзіліся экскурсіі, у час якіх ішлі заняткі па прыродазнаўчых прадметах. Працавалі фізічны, хімічны, біялагічны, літаратурны і іншыя гурткі.

„Вось тады ў школе зарадзілася ў мяне зацікаўленне літаратурай і прыродай, а таксама прывычка працы ў гуртках", — успамінала Людвіка Савіцкая. У 1906 годзе першы раз трапілі ў рукі Людвікі кнігі „Дудка беларуская", „Смык беларускі" і газета „Наша ніва". Яны вельмі яе ўразілі і спадабаліся ёй, таму ў класнай рабоце па польскай мове „Характарыстыка Літвы" Людвіка старалася высветліць розніцу паміж літоўцамі і беларусамі на аснове мовы гэтых народаў.

Аднак навуку ў гэтай школе нечакана прыйшлося спыніць. У лістападзе 1907 года раптоўна памёр бацька Людвікі. Заставацца далей у Кіеве ёй з маці не хацелася, цягнула да сваіх. Вясной 1908 года Людвіка з маці пасля сканчэння 4 класа прыехала на Гродзеншчыну. У 1909 годзе Людвіка паступіла ў 6 клас прыватнай жаночай гімназіі Кацярыны Баркоўскай. Праграма гэтай гімназіі больш адпавядала праграме кіеўскай гандлёвай школы, чым у дзяржаўных гімназіях. У тым жа 1909 годзе арганізаваўся Гродзенскі гурток беларускай моладзі. На арганізацыйным сходзе Людвіку выбралі бібліятэкаркай гуртка. У хуткім часе яна завязала перапіску з Віленскай беларускай кнігарняй, рэдакцыямі „Нашай нівы", суполкай „Загляне сонца і ў наша ваконца" ў Пецярбургу. Пазней пазнаёмілася асабіста з віленскімі беларусамі. Перапісвалася з Іванам Луцкевічам, Вацлавам Ластоўскім, Аляксандрам Уласавым. Людвіка пісала вершы ў „Нашу ніву". Першы з іх быў надрукаваны ў 1911 годзе пад псеўданімам Мірко.

У 1912 годзе Людвіка скончыла гімназію, а ў наступным годзе выехала ў Варшаву на 10-месячныя курсы агародніцтва, садоўніцтва і пчалярства. Адначасова скончыла ваенныя санітарныя курсы.Узяцца за больш салідную навуку не дазваляла здароўе.

У гэты ж час Людвіка пачала складаць батанічны зельнік, ставячы на першае месца назвы раслін на беларускай мове. Падчас Першай сусветнай вайны зельнік знішчыўся, але запісаныя назвы раслін засталіся.

Скончыўшы курсы, 1 ліпеня 1914 года Людвіка атрымала пасведчанне аб'яздовага інструктара і хацела прайсці дзе-небудзь аднагадовую практыку. Аляксандр Уласаў радзіў ёй паехаць у Лябёдку, маёнтак Леанарда Іваноўскага, даў ёй адпаведную рэкамендацыю. Леанард Іваноўскі адказаў, што месца ёсць і можа прыняць. Але пачалася Першая сусветная вайна. Прыйшлося практыкаваць у свайго дзеда ў Альхоўніках, які быў добрым садоўнікам і пчаляром. У вольны час Людвіка запісвала назвы раслін, песні, прыпеўкі, загадкі.

Хутка фронт падышоў пад самыя Альхоўнікі і Людвіка з маці апынулася ў Мінску. Яна пачала тут працаваць у камітэце Таварыства помачы ахвярам вайны і іншых беларускіх арганізацыях (у Беларускім нацыянальным камітэце, у Цэнтральнай радзе, у Беларускай сацыялістычнай грамадзе, усюды сакратаркай). Праца ў Людвікі Савіцкай часта мянялася. Яна ішла туды, дзе была больш патрэбная. Была загадчыцай сталовак, пасля загадчыцай дзіцячага прытулку, ткацкай майстэрні, скарбнікам...

Камітэт помачы ахвярам вайны правёў шасцітыднёвыя курсы агародніцтва для бежанцаў. Заняткі вяліся на беларускай мове, а дазвол на курсы быў атрыманы ад Міністэрства земляробства. У Мінску Людвіка Савіцкая пазнаёмілася з многімі беларускімі дзеячамі: Змітраком Бядулем і яго сёстрамі, Ядвігіным Ш. (Лявіцкім) і яго дачкой Вандай, з Уладзіславам Галубком, Аркадзем Смолічам, Максімам Багдановічам і іншымі.

Людвіка Савіцкая ў Мінску пісала вершы, імпрэсіі. Яна пачала тады карыстацца псеўданімам Зоська Верас. Зоська — гэта другое імя Людвікі, а верас — гэта расліна, якую яна вельмі любіла.

У 1917 годзе Людвіка Савіцкая прымала ўдзел ва Усебеларускім з'ездзе рабочых, сялянскіх і салдацкіх дэлегатаў, была яго сакратаром.

Восенню 1918 года яна з маці вярнулася ў родную Сакольшчыну. У Мінску застаўся яе муж Фабіян Шантыр, юрыст, публіцыст, камісар па справах нацыянальнасцей у першым беларускім урадзе Зміцера Жылуновіча. Людвіка яго больш не ўбачыла. Фабіяна Шантыра 29 мая 1920 года расстралялі бальшавікі ў Навазыбкаве. У 1919 годзе ў Людвікі нарадзіўся сын Антон, які не ведаў свайго бацькі. Яна з сынам жыла ў дзедавым фальварку ў Альхоўніках. Дзед памёр у 1922 годзе. Альхоўнікі прыйшлося прадаць. Людвіка з маці і сынам у канцы 1923 года пераехала ў Вільню і з таго часу жыла там. Аднак Альхоўнікі яна ўспамінала праз усё сваё жыццё: дом і сад, ліпавыя прысады, сажалку. У Вільні Людвіка пачала працаваць адміністратаркай у рэдакцыі грамадаўскіх газет на вуліцы Вілінскай, 12. Тут яна сустрэлася з Антонам Луцкевічам, пазнаёмілася з Браніславам Тарашкевічам і іншымі беларускімі дзеячамі. Людвіка насіла харчовыя перадачы палітычным вязням, дабівалася ў пракуратуры дазволу на перадачу ім кніжак, паштовай паперы. У турме на Лукішках тады сядзела нямала беларусаў. Сярод іх Міхась Машара, Антон Войцік і іншыя.

У 1924 годзе ў Вільні газетай „Голас беларуса" быў выдадзены складзены Зоськай Верас „Батанічны слоўнік". Яна разам са студэнтам-украінцам Міхаілам Бароўскім працавала над кнігай „Мёдадайныя расліны". Міхаіл Бароўскі пісаў па-украінску, а Зоська Верас — па-беларуску. Але лёс працы быў розны. Міхаіл Бароўскі дапрацаваў і выдаў у Львове багата ілюстраваную кнігу, а праца Зоські Верас друкавалася пакрысе на старонках часопіса „Беларуская борць" і то не ўся. Старонкі рукапісу, якія засталіся, Зоська Верас перадала ў аддзел рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі Акадэміі навук Беларусі.



У 1926 годзе Людвіка Антонаўна выйшла замуж за Антона Войціка, які працаваў у беларускіх газетах, за што не раз апынаўся ў турме. За грошы атрыманыя ад продажу Альхоўнікаў, купілі домік і ўчастак зямлі ў Чыгуначнай Калоніі (цяпер Павільнюс).

Зоська Верас друкавала свае творы ў студэнцкіх часопісах „Наш шлях", і „Студэнцкая думка", у выданні „Родныя гоні". Гэта былі абразкі „Сум", „Ночы", „Вецер выў", „Мыслі", „Рыбкі" і іншыя.

Выступала пісьменніца са сваімі творамі на літаратурных вечарах, якія ладзіліся ў Вільні Таварыствам беларускай школы і Студэнцкім саюзам.

Пасля разгрому Беларускай сялянска-работніцкай грамады, калі ўсе грамадскія газеты былі закрытыя, Зоська Верас пачала ў 1927 годзе выдаваць і рэдагаваць дзіцячы часопіс „Заранка", а таксама „Гаспадарскі аддзел" — дадатак да газет, які выходзіў адзін раз у месяц. „Заранка" выходзіла на працягу трох гадоў. Дапамагаў Пасольскі клуб (30 злотых). Потым гэтая дапамога спынілася. У „Заранцы" супрацоўнічалі Міхась Машара, Міхась Васілёк, Сяргей Новік-Пяюн, Л. Бярозка (А. Смаршчок), Хведар Ільяшэвіч і іншыя. Але найбольш пісалі для „Заранкі" сама Зоська Верас і яе муж Антон Войцік.

Апавяданні, якія Зоська Верас пісала для „Заранкі", вучылі любіць прыроду, давалі дзецям шмат цікавай інфармацыі, заклікалі берагчы расліны, звяроў і птушак, захоўваць традыцыі. Пісала Зоська Верас і навукова-папулярныя артыкулы аб прыродзе. Друкаваліся таксама яе вершы, пранікнутыя любоўю да роднай прыроды. „Заранка" карысталася поспехам сярод вясковых дзяцей. Аднак грошай не хапала. Дапамога дзяцей не выратавала „Заранку". Калі ў 1927 годзе пабачылі свет 9 нумароў часопіса, то ў 1928 годзе — 4 нумары, у 1929 годзе — 3 нумары, а ў 1931, пасля выхаду двух нумароў, выданне „Заранкі" спынілася.

Нястомная Зоська Верас не траціла надзеі і ў 1934-1935 гадах беларускія дзеці гарталі старонкі новага дзіцячага часопіса „Пралескі". Дапамагаў выдаваць часопіс ксёндз Вінцук Гадлеўскі, але ён выдаваўся нядоўга.

У 1928 годзе было арганізаванае Беларускае кааператыўнае пчалярскае таварыства „Пчала". Зоська Верас стала яго старшынёй. У 1934 годзе Таварыства „Пчала" пачало выдаваць свой часопіс „Беларуская борць" пад рэдакцыяй Людвікі Войцік. У жніўні 1934 года выйшаў першы нумар часопіса. Гэта была знамянальная падзея ў гісторыі пчалярства Беларусі. Першыя пяць нумароў, адбітыя на шапірографе, мелі сціплы выгляд: 8 невялікіх старонак, невыразны тэкст. Але часопіс быў прыхільна сустрэты чытачамі. У ім разглядаліся важныя арганізацыйныя пытанні, асвятляліся найбольш вострыя праблемы пчалярства. Матэрыялы часопіса вызначаліся тэматычнай актуальнасцю, яснасцю думкі, даступнасцю зместу. З 1935 года „Беларуская борць" пачала выдавацца друкарскім спосабам. Яе аб'ём павялічыўся да 28 старонак. Выданне кожнага нумара знаходзілася пад пагрозай зрыву. Вось што адказвала Зоська Верас у „Паштовай скрыньцы" свайму чытачу: „Наш часопіс ніякай дапамогі нідкуль не атрымоўвае, абапіраецца толькі на падпіску; калі яна перарвецца „Борць" існаваць не зможа. Усе супрацоўнікі рэдакцыі і адміністрацыі працуюць на грамадскіх пачатках, але друк і паперу трэба аплачваць".

У часопісе друкаваліся цікавыя артыкулы па агародніцтве, садоўніцтве і пчалярстве жыхара з-пад Шкунцікаў Дзісенскага павета (цяпер Шаркаўшчынскага раёна) Васіля Уладзіміравіча Рабізы. Зоська Верас помніла прозвішча гэтага аўтара. Яна папрасіла ў мяне адрас Васіля Рабізы, і паміж імі завязалася перапіска. У „Беларускай борці" часта друкаваліся артыкулы Людвікі Войцік. Яна вяла таксама пошту чытачоў, адказвала на іх пытанні.

Таварыства „Пчала" ўстанавіла кантакты з украінскімі і польскімі пчалярамі, абмен матэрыяламі, пчалярскім вопытам.

Пяць гадоў у цяжкіх палітычных і фінансавых умовах выдавалася „Беларуская борць". Выхад кожнага нумара ўспрымаўся як вялікая падзея.

„Але матэрыяльнае становішча „Беларускай борці" не паляпшалася, — успамінала Зоська Верас. — У маі 1939 года мы выдалі апошні нумар. З вялікім сумам расставаліся з нашым выпеставаным часопісам, бо на далейшае ўжо не хапала сілы". Але і тое, што было зроблена, не загінула марна. Самаахвярную дзейнасць Зоські Верас у гэтай галіне матэрыяльнай культуры будуць успамінаць нашчадкі.

Цікавай была падрыхтаваная Зоськай Верас кніга „Мядовыя расліны". У кнізе быў беларуска-польска-ўкраінска-расійска-лацінскі слоўнік мядовых раслін, дадзены былі дэтальныя апісанні кожнай расліны. У канцы кнігі былі аддзелы раслін: прамыслова-мядовыя, садова-мядовыя і г.д. У часопісе „Студэнцкая думка" выказвалася пажаданне, каб хутчэй знайшліся выдаўцы на гэтую важную кнігу. Але выдаўцы не знайшліся. Рукапіс кнігі недзе загінуў. З 1926 года Зоська Верас і Станіслаў Станкевіч выдавалі штогод беларускі адрыўны каляндар, дзе сяляне маглі прачытаць гаспадарчыя парады, цікавыя весткі з розных галін жыцця, жарты. Праз гэтыя календары роднае слова трапляла ў сялянскую хату.

Апошнія гады перад Другой сусветнай вайной былі вельмі цяжкія для беларускага руху. Амаль усе беларускія арганізацыі былі закрытыя. Віленская беларуская гімназія стала філіяй польскай гімназіі. Работы не было. Людвіка і Антон Войцікі прадалі сваю хату ў Чыгуначнай Калоніі і купілі гектар зямлі ў Ніжніх Панарах. Дзялянка была ў лесе, паблізу ад горада. Тут Антон Войцік пабудаваў глінабітную хату, пасадзіў сад.

17 верасня 1939 года ў Вільню ўвайшла Чырвоная Армія. Пачаліся арышты. Сярод беларускіх дзеячаў былі арыштаваныя Антон Луцкевіч, Уладзімір Самойла, Вячаслаў Багдановіч, Фабіян Ярэміч і іншыя. Беларускае грамадскае жыццё замерла. Пасля перадачы Вільні і Віленскага краю буржуазнай Літве працавалі толькі беларуская прагімназія, дырэктарам якой быў ксёндз Адам Станкевіч, а ў Савецкай Літве — Мікалай Анцукевіч.

Падчас нямецкай акупацыі беларускае жыццё крыху ажывілася: працавала Віленская беларуская гімназія, Беларускі нацыянальны камітэт, выдавалася беларуская газета.

У 1945 годзе беларускае жыццё ў Вільні зноў замёрла. Людвіка Войцік займалася садам, агародам, гадавала лекарскія расліны.

„У 1948 годзе раптоўна памёр муж Зоські Верас Антон Войцік. Пачаліся найгоршыя гады ў жыцці Людвікі Войцік — гады самоты, ізаляванасці ад людзей, тугі па сыне, які

працяг ☞ 9

# Зоські Верас

бясследна згінуў у 1945 годзе. У 1956 годзе сын Антон Шантыр нечакана вярнуўся дамоў са сталінскіх лагераў: дзесяць гадоў ён быў пазбаўлены права перапісвацца з маці", — расказвала Галіна Войцік.

У 1961 годзе пачаўся новы перыяд у жыцці Зоські Верас. Па словах пісьменніцы, яе адкрыў аспірант з Мінска Арсень Ліс, які ў віленскіх архівах збіраў матэрыялы для сваёй дысертацыі. Ён часта наведваў „Лясную хатку" — дом на Панарах, дзе жыла Зоська Верас. Яна гаварыла, што Арсень Ліс абудзіў яе з летаргічнага сну. Агарод, гаспадарка, унук не маглі задаволіць Зоську Верас, якая шмат ведала, прывыкла займацца разумовай працай. Са з'яўленнем Арсеня Ліса, а пасля іншых беларускіх літаратараў жыццё Зоські Верас перамянілася. У госці да пісьменніцы сталі прыязджаць вучоныя, мастакі, літаратуразнаўцы, студэнты, школьнікі, каму была дарагая беларуская мова, літаратура, гісторыя. Зоська Верас дрэнна чула, і таму, калі з прыязджаў да яе, яна давала мне спецыяльны сшытак для гасцей, у якім запісваў свае пытанні. Зоська Верас была незвычайна дасведчаным чалавекам, валодала фенаменальнай памяццю. Яна захавала ў сваёй памяці мноства імён, фактаў, падзей, дат з бурлівага беларускага жыцця першай паловы XX стагоддзя. Расказвала Зоська Верас цікава, вобразна, з многімі дэталямі.

Многія пачалі пісаць Зосьцы Верас, прасіць парады, даць кансультацыю па тым ці іншым пытанні. Уладзімір Караткевіч цікавіўся „Батанічным слоўнікам". Назвы раслін былі яму патрэбныя да яго твораў. Гісторык Генадзь Каха初оўскі зацікавіўся постацыю прадзеда Людвіка Войціка — Ігната Кулакоўскага (1800-1870), які ў 1834 годзе ў пісьме на імя расійскага міністра асветы пісаў пра неабходнасць даць беларускаму народу адукацыю „с учётом национальной самобытности здешних людей". Зоська Верас захавала дыплом аб выбранні даследчыка беларускіх старажытнасцей і педагога Ігната Кулакоўскага сябрам Навуковага таварыства ў Даніі. Ён быў таксама сябрам Навуковых таварыстваў у Вільні, Варшаве, Пецярбургу.

Вучні з Гудзевічаў Мастоўскага раёна прасілі дапамагчы стварыць у школьным музеі куток лекарскіх зёлак. Многія з гасцей прасілі расказаць пра Максіма Багдановіча. Зоська Верас заставалася адзіным чалавекам, які асабіста ведаў паэта. Пыталіся пра Змітрака Бядулю, Ядвігіна Ш., Гальяша Лёвчыка і іншых. Зоська Верас падрабязна адказвала на пытанні, паказваючы архіўныя матэрыялы, лісты Івана Луцкевіча, Вацлава Ластоўскага, Аляксандра Уласава, Фабіяна Шантыра, дарэвалюцыйныя выданні кніг, кнігі міжваеннага часу, часопісы, фотаздымкі. „Для пашырэння ведаў пра беларускі адраджэнскі рух, для абуджэння нацыянальнай свядомасці яна не шкадавала ні сіл, ні часу", — пісала Галіна Войцік — дачка Зоські Верас.

У „Ляснай хатцы" Зоські Верас пабывалі пісьменнікі Уладзімір Караткевіч, Яраслаў Пархута, Рыгор Барадулін, Кастусь Цвірка, Данута Бічэль-Загнетава, Алесь Бачыла, мастакі Аляксей Марачкін, Віктар Маркавец, Яўген Кулік, Мікола Купава, Вячка Целеш, літаратуразнаўцы Адам Мальдзіс, Янка Саламевіч, Генадзь Кісялёў і іншыя.

Сваіх гасцей Зоська Верас сустракала ветліва. Летам з імі гутарыла каля стала пад сасной, увосень і зімой у сваім пакойчыку, дзе захоўвала архівы, лісты, кнігі, часопісы. Гасцей уражвалі яе маладыя вочы, цёмныя валасы, уменне гаварыць, фенаменальная памяць.

Пісьменніца працавала над успамінамі пра выдатных дзеячаў беларускай літаратуры і культуры. Так, яе ўспаміны „М.Багдановіч. 5 месяцаў у Менску" былі надрукаваны ў часопісе „Маладосць".

Зоська Верас пастаянна цікавілася сучаснай беларускай літаратурай. Яе бібліятэка папаўнялася новымі кнігамі беларускіх пісьменнікаў і паэтаў.

У 70-80-х гадах XX стагоддзя Зоська Верас шмат пісала. Яе ўспаміны друкаваліся ў розных часопісах і газетах Беларусі. Сярод іх „Гродзенскі гурток беларускай моладзі" („Маладосць"), „У гасцях у Лёвчыка" („Ніва") і іншыя.



Зоська Верас вяла перапіску з многімі людзьмі. Яна атрымлівала лісты ад старых сяброў і знаёмых: ад Ванды Лявіцкай, Паўліны Мядзёлкі, Баляслава Грабінскага, Вітаўта Тумаша. Пісалі ёй і зусім незнаёмыя людзі.

Цікавыя лісты атрымлівалі ад Зоські Верас члены літаратурнага гуртка Германавіцкай сярэдняй школы Шаркаўшчынскага раёна і яго апякунка ў той час настаўніца беларускай мовы і літаратуры Валянціна Фёдараўна Лагуновіч. Зоська Верас перапісвалася і з Васілём Уладзіміравічам Рабізам з вёскі Шкунцікі Шаркаўшчынскага раёна, які дасылаў у часопіс „Беларуская борць" свае артыкулы па садоўніцтве і пчалярстве.

Звычайна за тры месяцы Зоська Верас атрымлівала да ста лістоў, а аднойчы іх прыйшло 170. За год іх прыходзіла 600-700. Ніводны ліст не заставаўся без адказу. Аднак не заўсёды Зоська Верас паспявала своечасова адказаць на лісты. Пісьменніца любіла атрымліваць ад людзей весткі, пытанні. У гэтым яна бачыла сэнс свайго жыцця. У лістах Зоська Верас давала людзям парады, кансультацыі, шчодра абменьвалася сваімі багатымі ведамі з усімі, хто прыязджаў да яе з Беларусі.

Летам 1984 года я прыязджаў у Гродна, каб пазнаёміцца з горадам-музеем пад адкрытым небам. Зоська Верас папрасіла мяне, каб я, калі буду ў Гродне, з'ездзіў у Гудзевічы Мастоўскага раёна, пазнаёміўся там з літаратурна-краязнаўчым музеем і яго стваральнікам настаўнікам беларускай мовы і літаратуры Алесем Мікалаевічам Белакозам. Зоська Верас пасылала Алесю Белакозу экспанаты для музея, у тым ліку лекавыя зёлкі. Яна хацела, каб я добра агледзеў музей, падрабязна апісаў, што ўбачыў, а потым пры чарговай сустрэчы расказаў ёй, як у музеі размешчаны яе экспанаты.

Першым памочнікам Зоські Верас быў яе зяць Лявон Луцкевіч. Ён перадрукоўваў для яе рукапісы, абнаўляў старыя фотаздымкі, прыводзіў і адвозіў гасцей, дапамагаў у падборы матэрыялаў.

У 1982 годзе за 4 месяцы да свайго 90-годдзя, Зоська Верас была прынята ў Саюз пісьменнікаў СССР. У прывітальным адрасе Саюза пісьменнікаў адзначаліся яе незвычайная грамадская актыўнасць на працягу ўсяго жыцця і вялікая заслуга для беларускага адраджэнскага руху. Паэт Сяргей Панізнік, які прысутнічаў на юбілеі і якому было даручана перадаць старэйшай беларускай пісьменніцы прывітальны адрас Саюза пісьменнікаў, адзначыў „яе нястомную і бескарысную дапамогу ўсім тым, хто вывучае нашу літаратуру, культуру", „унікальны архіў" і „выключную памяць". „Можа здацца дзіўным, — пісала Галіна Войцік, — што Саюз пісьменнікаў адкрыў для сябе Зоську Верас толькі ў год ейнага 90-годдзя. Так і хочацца запытацца словамі Янкі Купалы: „А што ж дагэтуль вы рабілі? А дзе ж дагэтуль вы былі?".

Галіна Войцік пісала: „Многа ініцыятывы, настойлівасці і клопату ў справе надання Зосьцы Верас афіцыйнага пісьменніцкага статусу праявілі некаторыя сябры па пяру. З вялікай ахвотай далі ёй рэкамендацыю для ўступлення ў Саюз пісьменнікаў Уладзімір Караткевіч, Адам Мальдзіс, Арсень Ліс. Многа парупіўся, каб выпаўніць фармальнасці і пераадолець усе бюракратычныя бар'еры Генадзь Каханоўскі, падтрымку аказаў і Ніл Гілевіч".

У 1985 годзе выдавецтва „Юнацтва" выпусціла маленькі зборнічак Зоські Верас „Каласкі". У ім сабраныя творы розных жанраў: вершы, апавяданні, лірыка-філасофскія абразкі (імпрэсіі). Уступ да зборнічка напісаў Ніл Гілевіч, а кароткі біяграфічны нарыс пад назвай „Адданасць" — Янка Саламевіч. Большасць твораў Зоські Верас параскіданая па розных беларускіх выданнях, пачынаючы ад „Нашай нівы". Творчая спадчына пісьменніцы да цяперашняга часу не сабраная, не вывучаная. Яна чакае сваіх даследчыкаў.

Зоська Верас сябравала з Надзеяй Шнаркевіч, якая жыла ў Вільні. Па словах Галіны Войцік, гэтыя дзве старыя жанчыны ўзяліся за справу, якой не пацікавіўся ніхто з маладзейшых. Яны пачалі збіраць матэрыялы аб Віленскай беларускай гімназіі. Ім прыслалі свае ўспаміны былыя выпускнікі гімназіі М. Маслоўская, М. Пецюкевіч, Я. Шутовіч, Я. Багдановіч, С. Паўловіч, прыслалі фатаграфіі, пасведчанні аб „матуры" ці заканчэнні класа. З гэтых матэрыялаў быў аформлены альбом Віленскай беларускай гімназіі — першая спроба захаваць гісторыю славутай навучальнай установы.

Зоську Верас наведвалі многія віленскія беларусы: М. Маслоўская, Ж. Казлоўская, З. Каўшанка, Я. Шутовіч, Я. Багдановіч, А. Клімовіч, П. Сергіевіч, пазней — маладзейшыя: А. Аблажэй, Х. Балаховіч, В. Стэх і іншыя.

У „Ляснай хатцы" ўзнікла ідэя стварэння першай у Літве беларускай арганізацыі „Сябрына". Гэта быў клуб аматараў народнай творчасці, зарэгістраваны ў 1988 годзе.

Паэты Сяргей Панізнік, Рыгор Барадулін, Данута Бічэль-Загнетава, Уладзімір Скарынкін прысвячалі Зосьцы Верас вершы, мастакі малявалі яе партрэты, тэлебачанне здымала аб ёй фільмы. У канцы жыцця Зоська Верас дачакалася заслужанага прызнання, хаця ніколі не шукала ні славы, ні ўдзячнасці.

Прыязджаючы ў Вільню, я не мінаў гасцінную „Лясную хатку" Зоські Верас. Яна збірала матэрыялы аб заслужаных людзях у беларускай культуры, але забытых ці малавядомых. Зоська Верас задумала стварыць „Партрэты віленчукоў". Яе працу прадоўжыў Лявон Луцкевіч. Ён падрыхтаваў 50 партрэтаў беларускіх дзеячаў, жыццё і творчасць якіх былі цесна звязаны з Вільняй. Пасля смерці Лявона Луцкевіча ў 1997 годзе гэтую справу прадоўжыла Галіна Войцік. Яна напісала апошні 51-ы „партрэт віленчука" — партрэт Лявона Луцкевіча.

Сваю „Лясную хатку" Зоська Верас ператварыла ў сапраўдны музей-архіў: многія тысячы лістоў, розныя дакументы, успаміны, рэдкія кнігі, творы беларускіх мастакоў, альбомы і іншае.

Упершыню я пазнаёміўся тут з гісторыяй Віленскай, Радашковіцкай, Навагрудскай, Нясвіжскай беларускіх гімназій, з творчасцю выдатнага беларускага спевака Міхася Забэйды-Суміцкага. Тут я ўпершыню пачуў мілагучныя беларускія песні ў выкананні спевака Багдана Андрусішына (Данчыка).

Аднойчы Зоська Верас і Лявон Луцкевіч паралі мне пагаварыць на педсавеце сваёй школы аб стварэнні ў Германавічах музея мастацтва і этнаграфіі імя Язэпа Драздовіча, жыццё і дзейнасць якога былі цесна звязаны з нашым краем. У час пасяджэння педсавета ў лютым 1983 года было прапанавана ўсяму калектыву настаўнікаў узяцца за збор матэрыялаў для будучага музея. За справу актыўна ўзялася настаўніца рускай мовы і літаратуры Ада Эльеўна Райчонак. Разам з членамі гуртка „Спадчына" яна стварыла гісторыка-краязнаўчы музей у Германавіцкай сярэдняй школе, а крыху пазней — музей мастацтва і этнаграфіі імя Язэпа Драздовіча, які з 1 лютага 1992 года стаў дзяржаўным пад назвай „Музей культуры і быту". У зборы матэрыялаў дапамагалі і члены сям'і Ады Эльеўны, асабліва сын Міхась Райчонак. І вось ужо 26 гадоў Музей культуры і быту ў Германавічах паспяхова працуе. Яго наведваюць не толькі вучні і студэнты, жыхары гарадоў і райцэнтраў Беларусі, але тут бываюць і госці з Літвы, Латвіі, Расіі, Украіны, Польшчы, Германіі, Італіі, Злучаных Штатаў Амерыкі (Вітаўт і Зора Кіпелі).

У жніўні 2004 года Ада Эльеўна Райчонак адкрыла ў Германавічах прыватны літаратурна-мастацкі музей, дзе сабраныя карціны сучасных беларускіх мастакоў, якія ўдзельнічалі ў пленарах „Шляхамі Язэпа Драздовіча". Дзякуючы ідэі і дапамозе Зоські Верас і Лявона Луцкевіча цяпер у Германавічах працуюць тры музеі.

Калісьці Зоська Верас у вершы „Я не баюся жыццёвай буры" напісала пра сябе, выказала думкі аб сэнсе жыцця:

Я не баюся жыццёвай буры,  
хоць добра знаю яе шум пануры,  
і змрочнага не баюся ценю  
без ласкі цёплай сонка праменю,  
і не баюся працаў мазольных  
для рук бяздольных.  
Але ж баюся я ўтраты веры,  
траты энергіі баюся без меры,  
баюся жыць без ідэалу,  
бо ў чорнай пустцы сэрца б скanала...  
Больш чым цялеснай баюся смерці -  
душой умерці...

Апошнія два гады жыцця Зоські Верас былі вельмі цяжкімі. Яна даўно дрэнна чула. На 97-м годзе жыцця пачала слепнуць і паступова страціла ўсякі кантакт з людзьмі і навакольным асяроддзем. Увосень 1989 года дачка з зяцем забралі яе ў сваю гарадскую кватэру, адкуль было лягчэй выклікаць урача.

13 мая 1990 года згарэла „Лясная хатка". Прычыну пажару ніхто не высветліў. Зосьцы Верас пра пажар не сказалі.

Памерла Зоська Верас 8 кастрычніка 1991 года. Не дажыла крыху да 100 гадоў. Як пісала Галіна Войцік, пахаванне Зоські Верас стала сапраўднай маніфестацыяй беларушчыны ў Вільні. Сабралася мноства людзей: сваякі, знаёмыя, прадстаўнікі беларускіх арганізацый („Сябрына", Таварыства беларускай культуры Літвы, Асацыяцыя беларусістаў Літвы). З Мінска прыехалі пісьменнікі, мастакі, навукоўцы. Было шмат моладзі з Гродна, Брэста, Мінска, Маладзечна.

Пахавалі Зоську Верас на могілках у Панарах, побач з магіламі маці Эміліі Савіцкай, мужа Антона Войціка і сына Антона Шантыра. На гэтых магілах стаіць суцільны помнік з чорнага граніту, з выбітымі прозвішчамі, датамі нараджэння і смерці. Магілу наведваюць сваякі і вучні Віленскай беларускай сярэдняй школы імя Францыска Скарыны.

Газета „Звязда" змясціла 12 кастрычніка 1991 года цудоўныя радкі пра Людвіку Антонаўну Войцік: „Вільня пабяднела для беларусаў. У ёй не стала Зоські Верас. А нам усім здавалася, што мудры лёс падараваў ёй вечнасць. Спецыяльна пакінуў беларусам гэтага памятлівага экскурсавода ў эпоху нашага мінулага рамантычнага адраджэння. У часы, калі нацыянальная свядомасць была страшэнным крыміналам, яе маленькая „Лясная хатка" ў Вільні прыцягвала як неафіцыйны музей беларушчыны. І сцежка ў яго не зарастала".

Усё жыццё Зоські Верас — шчырай працаўніцы на ніве Беларускага Адраджэння — гэта подзвіг вернага служэння свайму народу, Бацькаўшчыне, сваёй культуры, роднаму слову.

Успамінаючы Зоську Верас, мы павінны ўспомніць з пашанай і любоўю імёны ўсіх беларускіх адраджэнцаў, якія шмат зрабілі для сваёй Радзімы, аднаўлення і захавання яе дзяржаўнасці.

Зоську Верас будуць успамінаць нашчадкі, бо зробленае для народа не забываецца.

**Кліменцій КОЖАН**

Германавічы Шаркоўшчынскага раёна Віцебскай вобласці

1 ☞ працяг

у навуковы свет. Вучні ахвотна прыходзілі на заняткі, якія адбываліся па суботах, замест адпачываць дома, — заявіў дырэктар Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мове ў Гайнаўцы Ігар Лукашук падчас ранейшай размовы, паколькі не быў прысутны ў школе ў дзень падвядзення вынікаў праекта.

Праект і яго станоўчыя паслядоўнасці ў ходзе сустрэчы дэталёва прадставіў настаўнік фізікі Дарыюш Мусюк. Адам Хоцей пахваліў вучняў і настаўнікаў за актыўны ўдзел у праекце. Заўважыў ён, што ўдзельнікі праекта, накіраванага на павышэнне ведаў, многаму навучыліся. Адам Хоцей і Агнешка Федарук-Малец з суполкі «Навігатар» атрымалі кветкі і падарункі з падзякай за дапамогу ў прыцягненні еўрасаюзных сродкаў і пры рэалізацыі праекта. Ад імя настаўнікаў, якія атрымалі дапаможнікі, выступіла настаўніца біялогіі Аліна Пліс. Адзначыла яна, што кабінет біялогіі з'яўляецца цяпер адным з нешматлікіх кабінетаў у Падляшскім ваяводстве так багата абсталяваным у сучасную тэхніку, між іншым, у мікраскопы і бінакуляры, дзякуючы якім можна па-сучаснаму праводзіць урокі біялогіі.

Настаўніца хіміі ў белліцэі і белгімназіі Анна Васілюк удакладніла, што ў хімічны кабінет куплена была абсталяваная па-сучаснаму шафа, спецыяльна прыстасаваная для захоўвання небяспечных хімікатаў, неабходных для правядзення



■ Сустрэча ў актавай зале закончылася беларускімі народнымі танцамі ў выкананні школьнага калектыву

школьных даследаванняў. У хімічны кабінет паступілі таксама дапаможнікі, якімі ўжо паспелі пакарыстацца ліцэісты і гімназісты.

— У кабінет фізікі мы атрымалі абсталяванне, якое дазваляе праводзіць даследаванні па кінематыцы, дынаміцы і іншых раздзелах фізікі. Зараз я магу зацікавіць фізікай больш асоб і ў выніку больш вучняў можа здаваць матуральны экзамен па фізіцы, маючы магчымасць рыхтавацца да яго, карыстаючыся новатрыманым абсталяваннем, — сказаў настаўнік фізікі Дарыюш Мусюк.

У біялагічнай зале паразмаўляў я з ліцэістамі і настаўніцай біялогіі Алінай Пліс. На вучнёўскіх і настаўніцкім сталах расстаўлена было сучаснае абсталяванне, мікраскопы і бінакуляры, якімі апошнім часам карысталіся вучні.

— У біялагічнай зале можна дакладна назіраць за тым, што даследуем, — заявілі белліцэісткі Аляксандра Буслоўская і Моніка Чурак.

— Нам цікавымі былі суботнія заняткі і майстар-класы. Мы ў невялікіх групах маглі паспяхова паглыбляць свае веды і ўмеласці, мелі магчымасць многаму навучыцца, — сказалі белліцэісты Наталля Асташэўская і Яцак Дружба.

— У рамках праекта ў біялагічную залу былі куплены 15 сучасных мікраскопаў і 15 бінакуляраў, з дапамогай якіх нашы вучні ўжо праводзяць даследаванні. Мае мікраскоп і бінакуляр спалучаны з камп'ютарам і інтэрактыўнай дошкай. Калі мы сёння даследавалі зараснікі, было іх відаць у маім мікраскопе і адначасна на інтэрактыўнай дошцы. Калі мы карысталіся візуалізерам, тады тое, што было відаць у мікраскопе, было запісана ў камп'ютар і можна будзе гэта паказваць многа разоў. Трохвымерныя зараснікі можна было сёння вельмі дакладна даследаваць. Новакупленае дарагое абсталяванне можна будзе выкарыстаць на ўроках батанікі, заалогіі і іншых раздзелаў біялогіі. Зараз лабараторнае даследаванне з прымяненнем мікраскопаў і іншай тэхнікі неабходнае падчас падрыхтоўкі да алімпіяд і матуральных экзаменаў па біялогіі і таму так важныя нам сучасныя адукацыйныя дапаможнікі, якія мы атрымалі ў выніку рэалізацыі праекта, — сказала настаўніца біялогіі Аліна Пліс.

Сустрэча ў актавай зале закончылася выступленнем вакальнага калектыву «Зінчка» і танцавальнага калектыву ды пачастункам для гасцей, вучняў і настаўнікаў.

❖ Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**




# http://liolia.by

Вырабы ручной работы заўсёды карысталіся попытам у тых, хто хоча набыць для сябе нешта арыгінальнае і індывідуальнае. Часцяком такія вырабы носяць яскравы нацыянальны каларыт. Гэта зразумела, бо народныя майстры, а такіх сярод рамеснікаў даволі многа, пэўна, маюць большае адчуванне той мясцовасці, якой належаць. Адным з месцаў, дзе прадаюцца такія вырабы, з'яўляецца крама „Лёля", што два гады таму адчынілася ў недалёкім ад Беластока Гродне.

Згодна сайту „Лёлі", які месціцца па адрасе http://liolia.by, крама дзейнічае і дагэтуль. „У нас можна знайсці працы майстроў з розных гарадоў і вёсак Беларусі. Цікавыя незвычайныя рэчы, прыгожыя і патрэбныя ў штодзённым жыцці: кераміку, дрэва, рэчы для кухні, хатні тэкстыль, вязаную вопратку, торбачкі, інтэр'ерныя кампазіцыі, упрыгожванні і не толькі. Неабыякавыя падарункі ды сувеніры. Майстры — людзі незвычайныя, кожны па-свойму адораны талентам, якім ахвотна дзеляцца з усімі праз свае працы. Калі аднойчы Вы спаткаеце рэч, зробленую майстрам, якая зайграе ва ўнісон з Вашым сэрцам, то яна будзе штодня настройваць Вас на пазітыў", — распавядаецца на сайце крамы. Дарэчы, ён пабудаваны ў сучасных традыцыях, дзе выйсці на розныя рубрыкі месцяцца ўверсе цэлага выяўлення, але ўласна рубрыкі знаходзяцца ніжэй на галоўнай старонцы. Таму, калі мы захочам паглядзець, што ж патэнцыйным пакупнікам прапануе „Лёля", то, пракруціўшы колка мышкі, даведаемся, што там можна набыць посуд, торбачкі, цацкі, упрыгожванні і іншыя рэчы.

Праўда, нідзе на сайце не пазначана, калі адчынілася „Лёля" і хто яе гаспадар. Аднак інфармацыю пра гэта можна знайсці на гродзенскіх сайтах. Так, сайт „Твой стыль" распавядае пра адкрыццё крамы 1 кастрычніка 2016 года і пра тое, што яе ўладальнікі — муж і жонка — Дар'я Фядотава-Вановіч і Віталь Вановіч. Згодна артыкулу, больш аб „Лёлі" дбае гаспадыня. „Лёля — багіня вясны, прыгажосці. Яна стараецца, каб нешта прыгожае прыносіла чалавеку натхненне", — цытуе Дар'ю „Твой стыль".

Пра тое, што ідэя такой крамы ў яе ўладальнікаў з'явілася за пяць гадоў да 2016 года, распавядае „Вячэрні Гродна". „Мы хацелі, каб гэта быў матэрыяльны асяродак, куды чалавек зойдзе і ўбачыць, як шмат у нас класных майстроў. Ты прыходзіш і разумееш: вось мы такія. Гэта вельмі файна. Праз посуд, вопратку, упрыгожванні чалавек можа сказаць: «Я вось такі, а не ніякі». Хацелася прыгожых рэчаў. У сучасным жыцці шмат стала рэчаў, якія не нясуць сэнсавай нагрузкі. Рэчы, рэчы, рэчы, за якімі трэба даглядаць. Але заўважаеш, што сярод іх вылучаюцца тыя асаблівыя, на якія вока само падае, якія прыносяць напоўненасць у жыццё. Да іх хочацца дакранацца, іх хочацца распаўсюджваць", — каментавала сваю працу Дар'я.

Тое ж выданне паведамляе, што ў краме плануюцца майстар-класы па роспісе, вырабе лялек, разьбе па дрэве і іншых накірунках. У снежні 2016 года „Гродна life" распавядаў пра выступ у „Лёлі" музычнага гурта „Балцкі субстрат".

Калі ж вяртацца да асноўнай функцыі крамы, то, паводле яе ўладальнікаў, набыць там рэчы можа не толькі вельмі заможны чалавек. „Акрамя таго, мы запрашаем усіх прыходзіць проста паглядзець на рэчы, як у выставачнай зале", — сцвярджае гаспадыня.

❖ **Аляксандр ЯКІМЮК**

## Дата з Календара

Падзеі і асобы БНР



## 115 гадоў з дня нараджэння
# Алены Лябецкай

Алена Лябецкая нарадзілася 15 ліпеня 1903 г. у сялянскай сям'і на хутары Лагуцева (цяперашні Дзятлаўскі раён). У 1910 г. бацькі пераехалі на жыхарства ў Гродна. Там Алена вучылася ў падрыхтоўчым класе дзявочай гімназіі. У 1914 г. сям'я ў выніку змушанага бежанства выехала ў расійскую Калугу, дзе Лябецкая працягнула навучанне ў гімназіі, што была эвакуяваная з Лодзі. Вяртанне на радзіму адбылося ў 1920 годзе.

З сярэдзіны 1920-х гадоў яна ўключылася ў грамадска-вызвольны і культурны рух. Стварала гурткі Таварыства беларускай школы. Была арганізатаркай і ўдзельніцай беларускіх спектакляў, канцэртаў на Дзятлаўшчыне, Слонімшчыне, Зэльвеншчыне. Узначальвала гурток ТБШ у мястэчку Казлоўшчына. Алена Лябецкая не толькі арганізоўвала вечарыны, але і сама выступала на імправізаваных сцэнах, чытала творы Янкі Купалы і іншых беларускіх паэтаў. У лістападзе 1927 г. абраная сакратаркай Слонімскай акруговай управы ТБШ. У 1928 г. арыштаваная тагачаснай польскай уладай. Вядомы факт, як у час аднаго з вобыскаў яна паспела праглынуць тэкст улёткі.

З 1929 г. жыла ў Вільні, працавала ў Галоўнай управе ТБШ, загадвала беларускай бібліятэкай-чытальняй. У 1929 г. была дэлегаткай Першага антыфашысцкага кангрэса ў Берліне. Была членам заходнебеларускага камітэта па падрыхтоўцы Еўрапейскага сялянскага кангрэса, пазней яго дэлегаткай. Зноў была арыштавана ў лютым 1930 г. і засуджана на 6 гадоў зняволення. У выніку абмену палітвязнямі паміж Польшчай і СССР у 1933 годзе апынулася ў Мінску. Вучылася на геолага-геаграфічным факультэце БДУ (1934-1938), удзельнічала ў рабоце Міжнароднай арганізацыі дапамогі змагарам рэвалюцыі. У 1938 годзе была зняволена ў савецкім канцлагеры ва Усходняй Сібіры. Выйшла на волю ў 1947 годзе. Жыла ў Слоніме. Працавала на службе тэхнічнага ўліку ў Белшахтлесе, затым у 1951-1958 гг. — бухгалтаркай сектара кінафікацыі ўаддзеле культуры Слонімскага райвыканкама.

Мужам Алены Лябецкай быў вядомы дзеяч беларускага грамадскага і культурнага руху, актывіст ТБШ Павал Крынчык, родам з вёскі Едначы на Слонімшчыне. Менавіта Крынчык трапіў пад абмен палітзняволенымі і папрасіў абмяняць таксама сваю жонку. Павал Крынчык таксама быў рэпрэсаваны сталінскім рэжымам у лістападзе 1935 г. — прыгавораны „за сувязь з разведкай буржуазнай Польшчы", але дажыў да вызвалення. Ён вярнуўся на радзіму толькі праз 9 гадоў пасля жонкі. Разам яны жылі ў Слоніме, мелі дачку Алену. Крынчык быў на 5 гадоў старэйшым за жонку. Адышоў у лепшы свет 22 верасня 1975 г.

Алена Лябецкая памерла 28 студзеня 1982 г., пахавана ў Слоніме. Павал Крынчык і Алена Лябецкая пакінулі свае ўспаміны пра 1920-30-я гады, але пра сталінскія лагеры не пісалі. Гэтыя ўспаміны друкаваліся ў кнігах „У суровыя гады падполля" (1958, Мінск), „Годы испытаний и мужества" (1973, Мінск), „Вильнюсское подполье" (1966, Вільнюс).

У адным са сваіх выступаў Лябецкая казала: „Мы ніколі не ішлі на гатовае, мы ўсё аддавалі справе роднай Беларусі, бо ў нас іншых шляхоў не было".

❖ **Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**
**Фота з архіва Сяргея Чыгрына**




# Дэмаграфія Гайнаўскай гміны

Вясковая Гайнаўская гміна займае плошчу ў 293 квадратныя кіламетры — гэта 18% тэрыторыі Гайнаўскага павета. Яна знаходзіцца па-суседску з Беларуссю. Мяжуе яна з пяццю гмінамі: Белавежскай, Дубіцкай, Чыжоўскай, Нараўчанскай і Нарваўскай.

Зараз у вясковай гміне ў 37 вёсках пражываюць 3972 асобы. Два гады таму гміна налічвала 3993 асобы. Шчыльнасць насельніцтва — 13 чалавек на квадратны кіламетр. На 100 жанчын прыпадае столькі сама мужчын. Мужчыны, калі жэняцца, дык бяруць за жонку маладзейшых за сябе жанчын. Бываюць выпадкі, што нават на 10, а то і на 20 гадоў. У Гайнаўскай вясковай гміне пераважаюць беларусы — іх 66% ад агульнага ліку насельніцтва, палякаў — 34%. Існуюць тры праваслаўныя парафіі: Арэшкава, Дубіны і Новае Беразова.

Да найбольшых вёсак належаць Дубіны — 777 жыхароў, Арэшкава — 373, Ліпіны — 310, Навасады — 268, Старое Беразова — 267, Новае Беразова — 261, Махнатае — 193, Новае Корніна — 172 ды Пасечнікі-Вялікія і Барысаўка — па 108. Менш чымсьці сто жыхароў налічваюць Дубічы- Асочныя — 95 жыхароў, Чыжыкі — 88, Хітрая — 87, Трывежа — 86, Пасталова — 77, Рэпіска — 74, Пуціска — 64, Катоўка — 60, Савіны Груд — 46, Барок і Васількова — па 45, Бельшчына і Сарочая Ножка — па 42, Тапіла — 33 і Звадзецке — 32.

Малымі пасяленнямі з'яўляюцца Буды-Лясныя (3 жыхары), Галякова Шыя (5), Дубінская Ферма (6), Скрыплева (13), Сахарэва (15), Пераходы (19), Лазіцы (21), Смаляны Садок (24), Выгода (27), Прагалі (28) , Чарлёнка-Лясная і Альховая Кладка (па 29).

За апошнія два гады пабольшала жыхароў у Ліпінах (тут найбольш — на 17), у Трывежы (на 10), у Прагалях (на 5), у Навасадах, Савіным Грудзе і ў Чарлёнцы-Лясной (у кожнай з іх на 4) ды ў Бельшчыне і Пасталове (там і там на 3). Паменшала жыхароў у Новым Беразове на 13, у Дубінах, Дубічах- Асочных і ў Рэпісках — у кожнай з іх на 7, у Махнатым і ў Пасечніках Вялікіх — там і там на 5, у Пуцісках, Тапіле і ў Хітрай — у кожнай на 4, Катоўцы — на 3 ды ў Арэшкаве і Выгодзе — у адной і другой вёсцы на 2.

У мінулым годзе адзінаццаць пар атрымалі медалі „За шматгадовае шлюбнае жыццё”, прысвоеныя прэзідэнтам РП.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

# Адгаданка

**1.** Вячаслаў, першы прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь, **2.** вялікая капа сена з... дзясяткай у квадраце, **3.** ручная рычажная вага, **4.** завязка ў фартуху, у якой... туз, **5.** у іголцы, **6.** гульня, **7.** драўляная пасудзіна для заквашвання цеста, **8.** дол, **9.** старажытнае ўсходнеславянскае свята ў пару летняга сонцастаяння, у ходзе якога... купаюцца? **10.** прыродная мінеральная сыравіна са злучэннямі металаў, **11.** соціна гектара, **12.** сталіца Іспаніі, **13.** ніжняя частка помніка, якая абапіраецца аб фундамент, **14.** травяністая расліна з горкім коранем, які выкарыстоўваецца як прыправа да мясных вырабаў, **15.** загадчык шпітальнага аддзела, **16.** не верх.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка. **(ш)**



Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 25 нумара**
Асот, ветах, імя, Ленін, метыл, Сумы.

Рашэнне: **Хто не мае сілы, таму свет нямілы**.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага.


Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
*PL ISSN 0546-1960*
*NR INDEKSU 366714*

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 000 egz.


# 15.07 — 21.07

**(22.03. — 20.04.)** Твая гвалтоўнасць можа ўвесці цябе ў праблемы 15-21.07. Лета прынясе нагоды і мілыя неспадзеўкі. Не спяшайся, разважай кожны крок. На працы не дасі выспацца канкурэнцыі. Бараны з пераломy другой і трэцяй дэкады павінны асабліва пільнавацца; ніякай рызыкі і непрадуманых прыёмаў!

**(21.04. — 21.05.)** 15, 16.07. зробіш важныя ходы і карысныя інвестыцыі. Энергія, прадпрымальнасць, інвенцыя. Вялікая папулярнасць. Сярод сяброў не крыўдуй на абы-што. Не пераборшчвай з высілкам. Правільна дыхай, не расставайся з бутэлькай вады. 20, 21.07. на канец добра выспішся.

**(22.05. — 22.06.)** Невычэрпныя крыніцы задум і ідэй, прылiў творчай энергіі. Адважна возьмеш голас на важнай сустрэчы. Не раскрывайся перад кожным. Са здароўем большыя праблемы табе не пагражаюць, не шукай іх на форумах для іпахондрыкаў. Але не пазбягай медычных абследаванняў. Еж больш гароднiны і садавіны.

**(23.06. — 23.07.)** Адвага, трапны напрамак дзеянняў. Дасканалыя рэзультаты на працы. Фінансавыя карысці і вялікая папулярнасць у кампаніі. Падтрымка сяброў прыдасца табе не адзін раз. Еж больш сырой гароднiны. 20, 21.07. можна пастарацца за патомка.

**(24.07. — 23.08.)** Не шкадуй сабе адпачынку. Выберыся на рамантычны вечар са сваёй палавінкай. Пазнаёмішся з цікавымі людзьмі. Не хваліся гучна тым, што зрабіў ці зробіш, бо хтосьці схоча скрасці твае геніяльныя задумы. Варта прадаць рэчы, якія ў цябе залежваюцца. Зрабі сабе перапынак ад электронікі.

**(24.08. — 23.09.)** Засяродзішся на найважнейшым. Пераможаш усе праціўнасці. Твая ўсмешка зачаруе кожнага. У пары многа рамантычных захадаў сонца і гарачых начэй. Падтрымлівай патрабуючых тваёй дапамогі. 20, 21.07. прыхільныя табе чыноўнікі, людзі на высокіх пасадах.

**(24.09. — 23.10.)** Узмоцніцца твая пазіцыя на працы. Будуць сілы да змагання з канкурэнцыяй. У пачуццях можа намяшаць Венера. Старайся праводзіць час на ўлонні натуры. У службовых кантактах апануй эмоцыі. 20, 21.07. дыпламатыя паможа табе дасягнуць поспехаў.

**(24.10. — 22.11.)** Розныя палёгкі (Сонца), відныя поспехі (Юпітар). Здабудзеш тое, за што іншыя змагаюцца месяцамі! Добры настрой і рамантызм. Спакоем дасягнеш больш. Самотнага Скарпіёна захопіць спакойны чалавек у яго атачэнні, ідэальны таварыш для цябе. Найлепшыя вынікі, твае задумы будуць стрэлам у «10». З 20.07. (да 24.07.) атрымаеш заслужаную ўзнагароду!

**(23.11. — 22.12.)** Палёгкі ад зорак не будзе. Удачы і няўдачы ўперамешку. З 20.07. (да 24.07) без праблем аформіш кожную важную справу ва ўстановах. Пераканаешся, што твой абраннік — самае лепшае, што маеш. Не раскідвайся грашыма. Але варта запісацца на курсы мовы; прыдадуцца ў будучыні. Трэніруй свой мозг.

**(23.12. — 20.01.)** Стабільна. Працягвай пачатыя праекты, шукай крыніц новых ведаў. Пазнаеш намеры сваіх праціўнікаў. Субтыльная краса. Шчасце да грошай! Выходзь з дому, карыстайся свежым паветрам.

**(21.01. — 19.02.)** Мноства энергіі, але і канфліктаў. Не памылі пачуццяў з прагай. Дома паставіш на сваім. На працы шукаюцца змены, нават калі і непрыемныя, давярай лёсу, які можа мець для цябе больш цікавыя прапановы. Энергію разгрузі спортам.

**(20.02. — 21.03.)** Твая інтуіцыя працуе без падвоху. Самотную Рыбу трапіць страла Амура. Ахопіш увесь балаган, трапны зрух у тваіх фінансах (не слухай дарадчыкаў, якія знюхаюць прыбыткі для сябе). Паявдзеш сямейнае мерапрыемства. З 20.07. добрыя пакупкі адзення.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Рэпатрыяцыя — сучаснасць

**У папярэднім нумары „Нівы” была мова пра канферэнцыю на тэму „Рэпатрыяцыі — гісторыя і сучаснасць”, якая 27 чэрвеня прайшла ў Падляшскай ваяводскай управе. Быў там даклад прафесара Яўгена Мі880вановіча пра гісторыю рэпатрыяцыі. Марэк Кетлінскі, дырэктар беластоцкага Дзяржаўнага архіва расказаў пра пасляваенную рэпатрыяцыю ў Польшчу...**

У Беластоцкім дзяржаўным архіве захоўваецца багатая дакументацыя наконт рэпатрыяцыі. Маем дакументацыю Дзяржаўнай рэпатрыяцыйнай установы — яе важных ваяводскіх і павятовых структур. Маем таксама дакументы беластоцкай Ваяводскай управы 1944-1950-х гадоў, дзе ў справаздачах шмат статыстычных даных. На гэтай аснове можам ацэньваць шкалу рэпатрыяцыйнага руху. У дакументах Ваяводскай управы маем спісак беларускага насельніцтва, якое перасялялася ў СССР. Маем таксама тых, якія вярталіся.

Вялікія масы насельніцтва, запушчаныя ў рух пасля Другой сусветнай вайны карэнным чынам змянілі лад даваенных гадоў. Мяркуецца, што пасляваенная міграцыя кранула каля дваццаці мільёнаў людзей у Еўропе, у тым ліку некалькі мільёнаў грамадзян даваеннай Польшчы. Беручы пад увагу маштаб, рэпатрыяцыйная акцыя была беспрэцэдэнтнай у гісторыі Польшчы. Рыхтуючыся да яе, была задума пакарыстацца вопытам іншых дзяржаў, аднак прыгледзеўшыся бліжэй была высnова, што такі досвед немагчыма перашчапіць на польскі грунт і трэба выпрацаваць уласныя метады. У чэрвені 1945 года міністр публічнай адміністрацыі стварыў Бюро пасяленчых штудыяў (Biuro Studiów Osadniczo-Przesiedleńczych) ды навуковую раду па пытаннях вернутых земель. Трэба помніць пра істотныя змены граніц, пра далучэнне да Польшчы земель, што раней былі пад нямецкім панаваннем, у тым ліку недалёкага нам рэгіёна EGO (Ełk-Gołdap-Olecko), які быў у межах Беластоцкага ваяводства да 1975 года; у гэты рэгіён таксама былі кіраваны рэпатрыянты. У кастрычніку 1944 года Польскі камітэт нацыянальнага вызвалення выдаў дэкрэт аб стварэнні Дзяржаўнай рэпатрыяцыйнай установы (Państwowy Urząd Repatriacyjny — ПУР).Установа мела займацца арганізацыяй і каардынацыяй рэпатрыяцыі. Акцыя, пачатая ў 1944 годзе, завяршылася па сутнасці 31 снежня 1958 года, значыць доўжылася 14 гадоў. ПУР меў арганізаваць рэпатрыяцыю з замежжа, меў ладзіць санітарную апеку, харчаванне, размяшчэнне рэпатрыянтаў, арганізацыю іх пасялення ў Польшчы, дапамогу, значыць цэлы комплекс дзеянняў у гэтай справе. Спярша сядзібай галоўнай управы быў Люблін, пасля яе перанеслі ў Лодзь, якая цягам некаторага часу выконвала ролю сталіцы Польшчы. Беластоцкая ваяводская рэпатрыяцыйная ўправа ўзнікла 26 студзеня 1945 года. Да яе стварэння дзейнічаў тут пасяленчы інспектарат, якому падлягалі раённыя пасяленчыя інспектараты ў Беластоку, Саколцы і Валілах. Гэтая ўправа да 25 студзеня 1945 года непасрэдна падлягала цэнтральнай управе ПУР у Любліне. Беластоцкі аддзел ПУР дзейнічаў на тэрыторыі не толькі Беластоцкага ваяводства, але і ўсходняй часткі Усходняй Прусіі, дзе ўзніклі раённыя пасяленчыя інспектараты. Інспектарат у Гердавах быў пасля распушчаны, калі Гердавы апынуліся ў межах СССР. Да 1946 года дзейнічалі інспектараты ў Белай-Піскай, Ожышы, Мрангове, Вэнгажэве і Кентшыне. Яны былі падпарадкаваны Акруговай управе ПУР у Гіжыцку. З канцом 1945 года гэтыя інспектараты былі падпарадкаваны Ваяводскай управе ПУР у Ольштыне. 31 студзеня 1945 года ў Беласток прыбыў першы транспарт з рэпатрыянтамі з тэрыторыі далучанай да СССР. Былі цяжкасці, не было транспарту дзеля перамяшчэння гэтых мас насельніцтва, не хапала харчоў, кватэр. Трэба помніць, што цэнтр Беластока быў разбураны ў 80%; у прынцыпе ад Фарнага да касцёла св. Роха ўсё было ў развалінах. Цяжка было кватараваць саміх гараджан, а і рэпатрыянтам трэба было знайсці нейкае месца. Ужо ў чэрвені 1945 года справаздачы інфармавалі, што ў межы Беластоцкага ваяводства прыбыло 14 тысяч рэпатрыянтаў з Вільні і Беларусі. У Беластоку запынілася тады каля пяці тысяч чалавек, з чаго звыш паўтары тысячы пражывала ў этапным пункце ў Беластоку, а ў іншых пунктах каля 1300 асоб. За той час цераз Беласток пракацілася каля 74 транспартаў з рэпатрыянтамі, затое да канца 1945 года прыехала ў Беласток каля сарака тысяч асоб. А ў самім жа Беластоку пасля заканчэння вайны асталося каля 46 тысяч чалавек. Найбуйнейшы паток рэпатрыяцыі быў у 1946-1947 гадах, цераз этапныя пункты ў Беластоцкім ваяводстве праходзілі чарговыя транспарты. Спярша мэтай транспартаў быў сам Беласток, пасля рэпатрыянты раз'язджаліся, частка ў раён EGO (Ełk-Gołdap-Olecko). З 1948 года гэты рух значна паменшаў. І ў 1948 годзе была высnова, што ПУР непатрэбны і 1 кастрычніка 1950 года ваяводскае аддзяленне ПУР у Беластоку было распушчана. Важны яшчэ 1956 год і хваля г.зв. другой рэпатрыяцыі. На жаль, у беластоцкім архіве няма дакументаў з таго перыяду, таму што тая акцыя была зладжана на цэнтральным узроўні, у Варшаве. І ўсе дакументы датычныя тых падзей у Беластоцкім ваяводстве захоўваюцца ў Архіве новых актаў у Варшаве. Мы засяроджаліся на дакументацыі вяртання з Усходу, але ёсць, хаця значна менш, дакументаў вяртання з Заходняй Еўропы. Маем пасведчанні жаўнераў, якія служылі ў польскай арміі на Захадзе і вярталіся да сваіх сем'яў. Вярталіся людзі з канцлагераў, з прымусовых работ у Германіі. Удалося захаваць дакументы ПУР ваяводскага і павятовага рангу, якія паказваюць усю складанасць рэпатрыяцыі. Была гэта своеасаблівая вандроўка народаў, сёння яшчэ недастаткова даследавана. У Беластоцкім архіве скануюцца даныя датычныя рэпатрыяцыі, ужо створана база даных аб'ёмам у 105 тысяч прозвішчаў. Ёсць там людзі не толькі з далучаных да СССР тэрыторый, але таксама з адлеглых рэгіёнаў Савецкага Саюза — з Сібіры ці Далёкага Усходу. Усіх прозвішчаў павінна быць каля двухсот тысяч.



Марэк КЕТЛІНСКІ

* * *

Рэпатрыяцыя адбываецца і ў нашы дні і пра яе сучасны ход расказаў Уладзімеж Недзялэк з Міністэрства замежных спраў РП. Не буду прыводзіць ягонага дакладу, які быў па сутнасці чытаннем адпаведных юрыдычных актаў, толькі пакарыстаюся некаторымі яго вытрымкамі. 7 красавіка 2017 года Сейм РП навелізаваў ранейшы закон аб рэпатрыяцыі, прыняты 9 лістапада 2000 года. Закон пачынаецца з пафаснай прэамбулы: „W poczuciu głębokiej więzi z Polakami — potomkami dawnej Rzeczypospolitej, ofiarami komunistycznego terroru, przemocą zmuszonymi do opuszczenia ziemi przodków, osiedlonymi wbrew własnej woli na najtrudniejszych do zamieszkania obszarach byłego Związku Socjalistycznych Republik Radzieckich; pozbawionymi możliwości powrotu do Polski, prześladowanymi z powodu swojego pochodzenia oraz przywiązania do wiary, tradycji i umiłowania wolności, skazanymi na pracę w nieludzkich warunkach, głód, choroby i częstokroć na fizyczne wyniszczenie; którzy, mimo wszelkich przeciwności, nigdy nie wyrzekli się Polski, jej tradycji i kultury, a miłość i przywiązanie do Ojczyzny przekazali swoim potomkom — pragnąc zadośćuczynić za doznawane przez zesłańców krzywdy, uznając, że powinnością Państwa Polskiego jest umożliwienie repatriacji rodakom, którzy pozostali na Wschodzie, postanawia się...” Вельмі прыгожа напісана, толькі не ўсё. Не напісана пра іншы тэрор, у выніку якога карэнныя патомкі даўняй Рэчы Паспалітай таксама былі прымушаны пакінуць зямлю продкаў і насуперак уласнай волі ратавацца ў Савецкім Саюзе менавіта. Але далей ужо мова пра дэпартацыю савецкімі органамі „Art. 9. 1. Wiza krajowa w celu repatriacji może być wydana osobie, która spełnia łącznie następujące warunki: [...] jest polskiego pochodzenia; [...] była deportowana lub zesłana przez władze Związku Socjalistycznych Republik Radzieckich...” І ўсё становіцца *na właściwe tory*. У тэксце закона няма тлумачэння, што абазначае польскае паходжанне, аднак гэтая справа перададзена на дапрацоўку міністрам замежных і ўнутраных спраў. І спадар Недзялэк заявіў, што гэта мае быць *osoba polskiego pochodzenia która deklaruje narodowość polską*... Што вырашальнымі маюць быць *więzy krwi*. Сейм карыстаўся даволі агульнымі фармулёўкамі, якія б не пярэчылі асноўнаму закону Рэчы Паспалітай, а вось міністэрскія чыноўнікі так рэтушавалі гэты закон, што ён набірае афарбоўку рэпатрыяцыйнай этнічнай чысткі.

Гэта яшчэ не ўсё. Далей маем „Art. 10a. Wydania wizy krajowej w celu repatriacji odmawia się osobie, jeżeli: [...] utraciła obywatelstwo polskie nabyte w drodze repatriacji lub repatriowała się z terytorium Rzeczypospolitej Polskiej albo Polskiej Rzeczypospolitej Ludowej na podstawie umów repatriacyjnych zawartych w latach 1944-1957 przez Rzeczpospolitą Polską albo przez Polską Rzeczpospolitą Ludową z Białoruską Socjalistyczną Republiką Radziecką, Ukraińską Socjalistyczną Republiką Radziecką, Litewską Socjalistyczną Republiką Radziecką lub Związkiem Socjalistycznych Republik Radzieckich do jednego z państw będących stroną tych umów...” Верагодна, практычнага значэння гэты артыкул не мае, бо тыя рэпатрыянты, пра якіх там мова, калі б нават былі неяк пакаяліся свайго колішняга рашэння і зацікавіліся вяртаннем у тыя мясціны, якія з жахам вымушаны былі пакінуць, то ўжо пэўна не маюць сіл для чарговай рэпатрыяцыі. Законам ад мінулага года патомкі даўняй Рэчы Паспалітай пазбаўлены *możliwości powrotu do Polski*, на своеасаблівы лад *prześladowanymi z powodu swojego pochodzenia*. Артыкул гэты не прадбачвае кальяння, ён выконвае ролю *nieodwołalnego Sądu Ostatecznego*, ад якога заключэння няма нават *Czyśćca*. Як у праваслаўнай тэалогіі; Вікіпедыя: „Prawosławie uważa katolicką doktrynę o czyśćcu za herezję...” І мне неяк так здаецца, што цяперашнія варшаўскія заканадаўцы вельмі стараюцца рэпатрыяваць Рэч Паспалітую на вельмі далёкі Усход, хіба нават далей за гістарычную Сарматыю...

Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

ISSN 0546-1960